## Да падпішчыкаў і чытачоў часопісі „Плуг“.

Абвешчаны рэдакцыяй часопісі „Плуг“ у № 10 суд над „Плугам“ зараз пачынаецца на старонках газэты „Беларуская Вёска“. З дапісаў для суду і з анкет, якія былі разасланы з тым-жа нумарам, і частка якіх чытачамі па запаўненьні прысланы, амаль не заўважваецца адмоўных бакоў.—Мова зразумелая, артыкулы-карысныя для селяніна—пішацца найбольш у анкетах. Частка выказвае пажаданьне пераводу часопісі на двухтыднёвую, іншыя аб пашырэньні таго ці іншага аддзелу, напрыклад, пчалярства, або скарачэньні, дадаць малюнкаў, памер 40 старонак захаваць і г. д. Наогул—уражаньне ўсіх карыстальнікаў часопісьсю, якія далі адказы ў анкетах, заўважваецца добрае, прыхільнае да часопісі.

Тыя, хто выпісвае доўгі тэрмін, паказваюць зробленыя палепшаньні ў сваёй гаспадарцы праз парады часопісі „Плуг“, робіцца лепшая апрацоўка глебы, пасеў караньплодаў, кармовых траў, пераход на шматпольле, палепшаньне жывёлагадоўлі, саду, гароду і г. д.

Такім чынам, з прысланых анкет і дапісаў для суду над „Плугам“, як сялян, гэтак і аграномаў, атрымліваецца вынік, што часопісь надта карысная і патрэбная для селяніна-гаспадара Беларусі.

Канчатковага ўяўленьня, чаго-ж жадае большасьць падпішчыкаў, пакуль што зрабіць нельга, бо ня ўсе прыслалі анкеты. *Рэдакцыя просіць, каб і рэшта падпішчыкаў і чытачоў запоўнілі і хутчэй прыслалі іх.*

У далейшым, разам з палепшаньнем часопісі, што будзе імкнуцца выканаць рэдакцыя, *паўстае пытаньне аб большым распаўсюджваньні яе, што залежыць і ад падпішчыкаў.* Многа падпішчыкаў, асабліва сяляне-дасьледчыкі, а таксама і іншыя, акрамя адказаў на запытаньні ў анкеце, дадаюць кароткія дапісы, у якіх даюць зарок і ўпэўніваюць рэдакцыю, *што яны зьбяруць ня менш 10 падпісак на „Плуг“ сярод ваколічнага сялянства.* Некаторыя з іх ужо прыслалі падпіску. Дасьледчык Акшэўскі—10, Савіцкі—5 на ўвесь 1929 г. „Калі ўсе возьмемся за яго пашырэньне,—пішуць сяляне-дасьледчыкі,—дык тады хутчэй будзе зьнішчана агранамічная няпісьменнасьць на вёсцы. *Затрачаныя на падпіску капейкі зьвернуцца селяніну рублямі праз падвышэньне ўраджаю і наогул праз палепшаньне гаспадаркі,* калі гаспадар пачне ўжываць парады, якія зьмяшчаюцца ў часопісі.—Такім чынам, пішуць яны,—мы паказваем свой суд над „Плугам“.

*Учынкі гэтых сялян павінны стаць прыкладам для ўсіх сялян-дасьледчыкаў і іншага актыву вёскі.*

Калі будзе пашырана падпіска, тады лягчэй будзе ажыцьцявіць пажаданьне чытачоў да пераходу на двухтыднёвую часопісь, упрыгожаньне малюнкамі, друкаваньне на лепшай паперы і г. д.

*Дык рашуча, таварышы, бярэцеся за справу пашырэньня часопісі „Плуг“!*

**Рэдакцыя.**

Пролетарыі ўсіх краін, злучайцеся!

ПЛУГ

Навукова-папулярная часопісь сельскай і лясной гаспадаркі

Выходзіць раз у месяц

IV год выданьня | Лістапад 1928 г. | № 11

# Задачу падвышэньня ўраджайнасьці трэба выканаць.

Абгаварэньне пытаньня як павялічыць, падвоіць ураджай працягнулася некалькі месяцаў. За гэты час адбылося шмат спэцыяльна прызначаных дзеля гэтага сходаў і паседжаньняў у Наркамземе і іншых установах. З дакладаў, спрэчак зямельных працаўнікоў і спэцыялістых па сельскай гаспадарцы выяўлена, што тэхнічная мажлівасьць для падваеньня ўраджайнасьці ў БССР ёсьць. З боку кліматычных умоў на Беларусі, а ў шмат якіх мясцох і глебавых, перашкод няма. Трэба толькі рашуча ўзяцца за працу ў гэтым напрамку як абслугоўваючым сельскую гаспадарку спэцыялістым, аграномам і іншым зямельным працаўніком, так і ўсёй грамадзкасьці, а асабліва самім сельскім гаспадаром. Праца прадбачыцца вялікая, але выканаць яе трэба. Напрамак, шляхі, якімі павінна ісьці праца, каб хутчэй дасягнуць пастаноўленае задачы, у галоўным вызначаны. На падставе абгаварэньня Наркамземам, пры ўдзеле навуковых працаўнікоў і спэцыялістых, складзена належная пастанова і паслана ў Саўнарком БССР для зацьверджаньня. Гэта будзе пасьля зацьверджаньня закон, мэта якога падвоіць ураджайнасьць краіны, адыйсьці ад таго становішча „што“, як казаў старшыня Саўнаркому т. Галадзед у сваёй прамове на Ўсебеларускім зьезьдзе Сельска-гаспадарчых і Лясных рабочых, „мы яшчэ ўсё топчамся на ўраджаях, якія па велічыні мала чым розьняцца ад даваенных. Саўгасы,—кажа ён далей,—не даюць прыкладаў для ваколічных вёсак, бо ў іх ураджаі мала перавышаюць сялянскія. Атрымліваецца, што Беларусь, будучы найбольш сельска-гаспадарчай краінай, увозіць сабе хлеб. Гэта акалічнасьць не дае магчымасьці належным чынам пашырыць індустрыялізацыю БССР, бо база, галоўная база для гэтага, с.-г. сыравіна, не дасягае да належнай велічыні, не дае патрэбнай колькасьці яе для прадпрыемстваў“.

Падвышэньне ўраджайнасьці залежыць ад палепшаньня ўсіх галін сельскай гаспадаркі, а таксама і народнай гаспадаркі. Праца па ўздыму сельскай гаспадаркі, аграрная рэвалюцыя, пад правільным кіраўніцтвам Камуністычнай партыі і Савецкае ўлады, пастаўлена на належныя рэйкі. Але пакуль што вынік ад палепшаньня быў мала прыкладны, бо ён быў раскіданы сярод мільёнаў дробных сялянскіх двароў. Усе дасягненьні ішлі, у большай частцы, на спажывецкія патрэбы сялянства. Праз гэта ўзрост таварнасьці значна адстае ад агульнае прадукцыі. Выхад з гэтага—буйнае сацыялістычнае земляробства. „Ніхто ня зьбіраецца“, кажа Камісар Земляробства БССР т. Прышчэпаў у артыкуле „Новыя задачы ў сельскай гаспадарцы“, прымусовым парадкам бядняцка-серадняцкае сялянства заганяць у калгасы. Калектывізацыя

павінна праходзіць у парадку добраахвотнасьці. Тыя бядняцка-серадняцкія гаспадаркі, якія застануцца, як індывідуальныя гаспадаркі, неабходна разьвіваць шляхам усебаковага каапэраваньня. Само-ж бядняцка-серадняцкае сялянства ўжо дастакова зразумела неабходнасьць арганізацыі буйнага земляробства і ў значным ліку пачало пераходзіць да калектыўнага вядзеньня гаспадаркі. З нова арганізаваных у гэтым годзе калектыўных гаспадарак 50 працантаў пабудавана на землях працоўнага карыстаньня. Гэтую ініцыятыву трэба падтрымаць шляхам прадстаўленьня лепшых зямель, павялічэньня норм землякарыстаньня, агранамічнымі мерапрыемствамі і інш. уваходзячым у калектывы. У першую чаргу ў гэтых гаспадарках трэба ўводзіць с.-г. культуру, капітальныя ўкладаньні сродкаў, даць ім новую тэхніку (машыны, розныя прадпрыемствы, праз якія паднімецца вытворчасьць працаўнікоў калектыўнага земляробттва). Пры буйным, калектыўным земляробстве хутчэй будзе зроблен пераход да шматпольля, да зьнішчэньня недарэчнасьці, што амаль 3-я частка карыснае плошчы пустуе пад папарам. Трэба хутчэй пашырыць пасеў асыпных расьлін, бульбы і караньплодаў, а таксама і вікі на папары, сеяных траў у асобным полі, вырашыць кармовае пытаньне для жывёлы". Але на пасеў траў трэба глядзець ня толькі як на здабычу кармовых сродкаў, а—як кажа праф. Вільямс,—як на спосаб палепшаньня ўрадлівасьці глебы.— Глеба-ж нашых палёў значна выпахана праз тое, што існавала трохпалёўка і ў большасьці зусім без пасеву канюшыны і іншых траў. На пескавых глебах сэрадэля, пялюшка, лубін, у справе палепшаньня глебы, адыграюць вялікую ролю. А далей трэба пачынаць уводзіць і новыя расьліны, як, напрыклад, доньнік, без якога амаль ні адна гаспадарка ў Злучаных Штатах Паўночнай Амэрыкі цяпер не абыходзіцца. Умовы-ж гэтых Штатаў зусім падобны да нашых.

Ужываньне новых культур і лепшае разьмеркаваньне ўсіх пасеваў мажліва толькі пры шматпольлі. Пераход да шматпольля трэба зрабіць як мага хутчэй. Ужо да сучаснага моманту ў Беларусі зямляўпарадкавана да 46 працантаў сельска-гаспадарчай плошчы. Уладай разам з працоўным сялянствам праведзена вялізарная праца па асушцы балот, па прыстасаваньню дзікіх, няўжытковых зямель пад сельска-гаспадарчую культуру. Над вырашэньнем гэтай справы працуюць каля 60.000 сялянскіх двароў, аб'яднаных у мэліарацыйныя таварыствы. Цяпер неабходна на гэтых землях, на якіх пакуль што зроблена толькі простая асушка, утварыць сельска-гаспадарчую культуру.

Торф, багацьце нашай краіны, пакуль што на ўгнаеньне ўжываецца вельмі мала. Надалей неабходна пашырыць торфараспрацоўкі, больш карыстацца торфам як для апалу, так і на ўгнаеньне. Ужываньне вапны на ўгнаеньне вельмі павялічвае ўраджай, дык трэба пачаць угнойваць ёю поле.

Драбленьне палёў праз дзяліцьбу гаспадарак, дзе значная плошча пахаці апынаецца пад разорамі, павінна рэгулявацца законам. Пастанова гэта прадбачыць і мае належны артыкул аб недзялімасьці гаспадарак.

Шляхі, якім спосабам ажыцьцявіць памянёныя мерапрыемствы і шэраг іншых, вызначаны ў пастанове. Пасьля зацьверджаньня Саўнаркомам, вызначныя ў пастанове мерапрыемства пачнуць выконвацца. Для тых, хто будзе перашкаджаць іх правядзеньню, вызначаецца кара, як штрафаваньне і інш. Шэраг мерапрыемстваў павінна будзе праводзіцца ў абавязковым парадку.

Ураджай ідзе поруч з навукай. Дзеля гэтага трэба сялянству імкнуцца папаўняць веды як праз парады агранома, так і праз часопісі і газэты. Калі выпісаць часопісь ці газэту аднаму цяжка, дык трэба аб'яднацца некалькім гаспадаром. Затрачаныя капейкі вернуцца потым рублямі, бо праз ужываньне лепшых спосабаў гаспадараньня павялічыцца ўраджай.

Усе мерапрыемствы трэба ўжываць для таго, каб падвоіць ураджай, бо ў сельскай гаспадарцы адно мерапрыемства другім замяніць нельга. Як-бы добра ня была апрацована і ўгноена глеба, а калі ня будзе ачышчана насеньне, дык павялічэньня ўраджаю чакаць ня прыдзецца, бо сьмяцьцёвыя расьліны возьмуць частку спажывы з глебы, тую частку, якая была-б скарыстана гаспадарчымі расьлінамі. Тое-ж самае зьніжэньне ўраджаю робяць і шкоднікі, пасьба жывёлы на азімых восеньню і г. д. З гэтымі адмоўнымі зьявішчамі трэба змагацца.

*Задачу падваеньня ўраджайнасьці трэба выканаць.*

Рэдакцыя.

# Нашы дасягненьні ў сельскай гаспадарцы.

Кастрычнікавая рэвалюцыя застае сельскую гаспадарку на Беларусі пераважна з трохпалёвай сыстэмай гаспадараньня, з надзвычайна слабым разьвіцьцём таварных галін—тэхнічных культур, і з нязначным лікам прадпрыемстваў па перапрацоўцы прадуктаў сельскае гаспадаркі.

Гады вайны, польская акупацыя—утварылі такое становішча для сельскай гаспадаркі, што яна да моманту гаспадарчага аднаўленьня вышла надзвычайна слабай і мала забясьпечанай гаспадарчымі магчымасьцямі для свайго разьвіцьця.

Аднаўленьне разбуранай сельскай гаспадаркі ва ўмовах БССР пачынаецца толькі з 1922-23 году. З гэтага часу кожны год нясе новыя дасягненьні ў працы нашага с.-г. будаўніцтва.

За апошнія 5-6 год мы назіраем паступовае, досыць выразнае пасоўваньне наперад вытворчых сіл сельскае гаспадаркі па шляху павялічэньня агульнай пасеўнай плошчы, жывёлы, павялічэньня ўдзельнай вагі таварных галін сельскай гаспадаркі.

Пашырэньне пасеўнай плошчы і павялічэньне ўдзельнай вагі таварных культур характарызуюцца наступнымі лічбамі:

| Гады | 1916 | 1924 | 1925 | 1926 | 1927 | 1928 |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Пасеўная плошча дзес. . | 2365,8 | 2648,4 | 2843,0 | 2939,0 | 3036,6 | 3092,4 |
| Павялічэньне ў процантах супроць 1916 г. . | 100 | 116,2 | 120,1 | 124,2 | 127,6 | 130,7 |

Агульны характар палявой гаспадаркі досыць яскрава абмалёўваецца тымі зьменамі, якія мелі месца ў павялічэньні ўдзельнай вагі асобных культур у агульнай пасеўнай плошчы. Гэтыя зьмены характарызуюцца наступнымі лічбамі:

Суадносіны палявых культур:

| Гады | Збожжа культуры | У тым ліку збож. азімыя | Бульба | Тэхніч. | Пасяўныя травы |
|---|---|---|---|---|---|
| 1916 | 83,1 | 41,2 | 8,8 | 4,2 | 3.9 |
| 1920—21 | 85.9 | — | 9,5 | 3,1 | 1,5 |
| 1924 | 81,5 | 43,6 | 11,3 | 3,5 | 3,7 |
| 1925 | 79.2 | 41.3 | 12.1 | 4,0 | 4.1 |
| 1926 | 77,9 | 40.2 | 13,0 | 4,6 | 4,6 |
| 1927 | 76,6 | 39.9 | 13,5 | 4,8 | 5.1 |
| 1928 | 74,9 | 39,4 | 13,0 | 5,3 | 6.8 |

Такім чынам, назіраецца бязупыннае зьніжэньне збожжавых і рост інтэнсыўна-таварных культур, што поўнасьцю адпавядае ўстаноўцы пэрспэктыўнага пляну разьвіцьця сельскае гаспадаркі БССР.

Мэтэоролёгічныя ўмовы 1928 г., у пэрыяд веснавога севу і пачатку лета ня былі спрыяючымі для разьвіцьця пасеваў, асабліва ў паўночных акругах, на цяжкіх глебах. Але другая палова лета спрыяюча адбілася на ўзросьце палявых культур і ўраджайнасьць па ўсіх культурах 1928 г. значна вышэй ураджайнасьці 1927 году.

Павышэньне ўраджайнасьці ў 1928 г. супроць 1927 г. можна характарызаваць наступнымі лічбамі:

| | Ураджай з дзесяціны ў пудох | | |
|---|---|---|---|
| | 1927 г. | 1928 г. | % росту |
| Азімыя культуры . . . | 43 | 44 | + 2,3 |
| Яравыя культуры . . | 36,3 | 42 | +15,7 |
| Сярэдні па азімых і яравых . | 39,8 | 43 | + 8,0 |
| **Па асобных культурах:** | | | |
| Лёну-насеньня . . . | 15,8 | 18 | +14,0 |
| Бульба . . . . | 534,5 | 419 | — 2,8 |
| Жыта . . . . . | 41,4 | 440 | + 7,0 |
| Ячмень . . . . | 40,4 | 45 | +12,5 |
| Авёс . . . . . | 34,9 | 46 | +31,0 |

У сярэднім падвышэньне ўраджаю ў 1928 годзе супроць 1927 г. па азімых выражаецца на + 2,3%, а па яравых зернявых на + 15,7%.

Аднак, ня гледзячы на павялічэньне ўраджаяў палявых культур (зернявых), агульны ўраджай і гэтага году застаецца нізкім, як і ў ранейшыя гады.

Другім момантам, характэрным у жыцьці мінулага с.-г. году—гэта нашы дасягненьні ў каляктывізацыі сельскай гаспадаркі.

Дырэктыва XV партзьезду аб рашучай працы па пераводу дробнай, заняпалай сельскай гаспадаркі на рэйкі буйнай гаспадаркі шляхам каляктывізацыі і каапэраваньня, вырашаецца з посьпехам. 1928 год прынёс нам каля 409 новых калгасаў і некалькі сот розных відаў вытворчых каапэрацыйных аб'яднаньняў. Сярод насельніцтва больш за ўсё прывіваецца с.-г. арцель, колькасьць якіх складае да 70 проц. агульнага ліку калгасаў. Рост калгасаў і вытворчых відаў каапэрацыі за бягучы год характарызуецца наступнымі лічбамі:

| | На 1-X—27 г. | 1-X—28 г. |
|---|---|---|
| Калгасаў . . . . . . . | 419 | 928 |
| Рознага віду вытворчых каапэраваных гаспадарак . . . . | 1567 | 2482 |

Такім чынам, па галоўных момантах працы за бягучы год мы маем значныя дасягненьні: буйны рост каляктывізацыі і вытворчага каапэраваньня, узрост пасеўнай плошчы наогул і ў прыватнасьці па таварных культурах, падвышэньне ўраджайнасьці, асабліва па яравому збожжу і г. д. Усе гэтыя дасягненьні даюць нам падставу яшчэ шырэй разгарнуць мерапрыемствы ў 1928-29 годзе ў напрамку каляктывізацыі, каапэраваньня і перабудовы сельскай гаспадаркі.

Інспэктар паляводзтва НКЗБ **П. Заяц.**



# ШЛЯХІ І СПОСАБЫ ПАДВЫШЭНЬНЯ ЎРАДЖАЙНАСЬЦІ

## Нашы парады як падвысіць ураджай.

*Працаўніком калгасаў, саўгасаў і працоўнаму сялянству.*

Узмацніць сваю гаспадарку, зрабіць яе больш прыбытковай і палепшыць сваё жыцьцё Вы зможаце толькі тады, калі падвысіце нізкія ўраджаі вашых палёў. Гэта магчыма толькі пры ўдумлівым, сур'ёзным падыходзе да ўсялякай працы ў гаспадарцы, пры прыстасаваньні да гаспадаркі ўсіх тых дасягненьняў, якія здабыты навукаю.

С.-Г. дасьледчыя станцыі працуюць над тым, якім чынам падняць ураджаі і над тым, як здабытыя вынікі прасунуць у масу сялянства і прыстасаваць іх да сялянскае гаспадаркі.

Вось тыя парады, якія мае даць Горацкая С.-Г. Дасьледчая Станцыя:

1. Добрая апрацоўка глебы дае мажлівасьць падвышаць ураджаі. Лушчэньне поля (мелкае ворыва) пад ярыну, зараз-жа пасьля прыборкі жыта, з наступным глыбокім ворывам восеньню, альбо вясной зьнішчыць на вашым полі пустазельле і дасьць падвышэньне ўраджаю да 20—25 проц.

Позьняе глыбокае ворыва на суглінках у раёне Горацкае Дасьледчае Станцыі не дае добрых вынікаў—лепшыя вынікі дае адно веснавое ворыва.

Пры апрацоўцы глебы з-пад канюшыны, васеньняе ворыва абавязкова, бо яно дае прыбаўку ўраджаяў на 15-20 проц.

Толькі ўгноенае поле дае высокія ўраджаі. Нашы выпаханыя, распылкаваныя палі патрабуюць у першую чаргу запраўкі іх арганічнымі матэрыямі. Для гэтага, калі не хапае гною, сейце лубін на зялёнае ўгнаеньне, карыстайцеся торфам для падсьцілкі, а перапрэлы торф вывозьце непасрэдна на поле.

Ураджаі жыта па лубіну бываюць ня ніжэй ураджаяў жыта па чыстаму папару з гноем.

Замена паўнормы гною перапрэлым торфам адбіваецца на зьніжэньні ўраджаяў,—таму ўносьце адначасова на сваё поле торф і гной. Гэта дасьць вам магчымасьць палепшыць поле і падвысіць ураджаі.

Ня трацьце гною на ўгнаеньне балот і сенажацяй, бо яны даюць вельмі добрыя ўраджаі толькі па мінэральных угнаеньнях. Без мінэральных-жа ўгнаеньняў няма сэнсу культываваць балота.

Сейце на падзолавых суглінках фасфарытную муку пад жыта, яна ўпаўне замяняе больш дарагі супэрфасфат і дае значныя прыбаўкі ўраджаяў.

Карыстайцеся супэрфасфатам для ўгнаеньня яравога кліну, асабліва бульбы і павярхоўнага ўгнаеньня канюшыны. Ад гэтага ўраджаі павышаюцца да 50—70 проц.

Каб палегчыць сваю цяжэрную працу, арганізуйце машынныя таварыствы па калякгыўнаму скарыстаньню трактара. Бо:

1. Трактар паскарае палявую працу.

2. Трактар падзешаўляе працу, асабліва пры глыбокім ворыве, ворыве балот і задзярнелых глеб.

3. Трактар дае магчымасьць працаваць там, дзе на конях цяжка выпаўніць працу, напрыклад, на дрэнна асушаных балотах.

4. Трактар, дзякуючы вялікай хуткасьці руху плуга, дае лепшую апрацоўку і падвышае ўраджаі на 10—20 проц.

5. Трактарам лёгка павялічыць глыбіну апрацоўкі, а гэта дае павялічэньне ўраджаяў на 10—15 проц.

Паляпшайце апрацоўку глебы, каб магчыма было дапасоўваць культурныя плугі, якія даюць лепшае ворыва. Вось што гаворыць нямецкая прыказка: „добра ўзараць, усё роўна, што напалову ўгнаіць“.

Добрая апрацоўка глебы дае магчымасьць прыстасаваць радавыя сяўнікі, якія даюць эканомію насеньня на 30—40 кгр. (2 п.) на 1 гэкт. і падвышаюць ураджаі на 10—15 проц.

Пратручвайце перад сяўбой насеньне пшаніцы, аўса і ячменю рошчынай фармаліну супраць сажы-галаўні [1]).

Апырскваўйце пладовыя дрэвы—яблыні і ігрушы бардоскай вадкасьцю супроць паршы і пладовай гнілі. Ураджай ад гэтага можа падвысіцца на 20—30 проц.

Уводзьце правільны севазварот таму, што зароднікі многіх хвароб, якія нішчаць расьліну, зімуюць у глебе.

Неабходна прыбіраць з садоў і гародаў усё засохлае лісьце, храпкі (качарыжкі), бацьвіньне і інш., таму што ў іх захоўваюцца заразы і ўсё гэта дапамагае распаўсюджваньню хваробы.

Каб падвысіць ураджай, трэба разводзіць сталыя, трывалыя супраць хваробы сарты. Напрыклад, бульба Вольтман і Сілезія менш пашкоджваюцца бульбяным грыбком. Яблыкі—антонаўку і штрэйфлін менш заражае парша і г. д.

Узмацніць сваю гаспадарку можна праз жывёлагадоўлю.

У наступным падаюцца тыя практычныя парады, якія кожны павінен скарыстаць:

*1. Неабходна паляпшаць жывёлу добрымі вытворцамі* мясцовай альбо іншых парод, зарэклямаваных як з боку здароўя, так і з боку прадукцыйнасьці іх бацькоў. Нашы дасьледваньні па Горацкаму раёну паказалі, што мэтысныя і палепшаныя мясцовыя каровы даюць павышэньне гадавога ўдою на 20—25%.

*2. Кармі жывёлу ня толькі грубымі кармамі (сенам і саломай), а давай ёй і спажыўны корм (муку, высеўкі і макуху);* бяз гэтых кармоў карова ня дасьць шмат малака.

---

[1]) Бярэцца 1 шклянка фармаліну на 5 вёдзер вады, або адна бутэлька фармаліну на 15 вёдзер вады (вядро = 12 кгр. вады). Аднэй шклянкай фармаліну, разьведзенай у 5-ці вёдрах вады, можна прамыць 800 кгр. насеньня (50 п.).

*3. Дабаўляй у кармавую дачу буракі і турнэпс:* яны дапамагаюць раздойваньню кароў.

*4. Як узімку, так і ўлетку карове патрэбен зялёны корм.* Зімой яго можна атрымаць загатаваўшы сілас (квашаны корм), летам, пры недахопе выпасаў, сей віка-аўсяную мешанку і карыстайся ёю ў стойле. З вялікім посьпехам можаш карміць жывёлу і канюшынай 2-га і 3-га году.

*5. Асабліва зьвярні ўвагу на выхаваньне маладняку:* добра кармі, даглядай яго і ня пушчай рана ў злучку. *Ад кепскага кармленьня і раньняй злучкі атрымліваецца дрэннае патомства.* Добрая цяля выгадуецца, калі ты дасі яму ня менш 13 вёдзер цэльнага малака і набавіш яшчэ спажыўных кармоў.

*6. Уцяпляй і асьвятляй хлеў*—гэтым ты зьберажэш корм і захаваеш здароўе жывёлы.

*7. Паляпшай сьвіней чыстакроўнымі ангельскімі вытворцамі,* і ты атрымаеш добры матэрыял для бэконнага адкорму, чаго не даюць простыя сьвіньні. Самымі лепшымі кармамі зьяўляюцца: ячная і аўсяная мука і іх сумесь, крыху горш макуха і высеўкі.

*Улетку кармі сьвіней зялёнай канюшынай, віка-аўсянай мешанкай і лугавой травой* з невялічкім дадаткам спажыўных кармоў. Лепш сьвіньні растуць на канюшыне.

*8. Цялятам і сьвіньням увадзі ў кармовы рацыён зьнятае малако крэйду і соль.*

*9. Кармі кароў сваячасова па нормах у дацкіх кармушках, арганізуй злучныя пункты, малочныя арцелі і кантрольныя саюзы;* праз гэта ты палепшыш сваю гаспадарку.

*Зьвярнеце самую шчырую ўвагу на садоўніцтва, закладвайце* пабольш новых садоў. Гэтым Вы значна павялічыце даходнасьць сваёй гаспадаркі. Садоўніцтва—самая працаёмкая, самая таварная *і самая прыбытковая галіна* сельскае гаспадаркі. Зараз у Савецкім Саюзе садоў мала, запатрабаваньні-ж на прадукты садоўніцтва—плады і ягады—вельмі вялікія. Умовы-ж Беларусі для разьвіцьця садоўніцтва—самыя найлепшыя.

Аб'яднайцеся ў калектывы і садзеце буйныя групавыя сады. Тады на дапамогу Вам прыдзе дзяржава і дасьць на гэту справу доўгатэрміновы крэдыт. Пасадка групавых садоў каштуе дзешавей выдаткаў па догляду за групавым садам і прадажы ўраджаю на адзінку плошчы прыходзіцца значна менш, а прыбытку ў шмат разоў больш, чымся з малых аднаўласных садоў.

Не садзеце сады на нізкіх мясцох, дзе грунтавая вада бліжэй як на 2 мэтры. Не садзеце густа—адлегласьць паміж дрэвамі павінна быць ня менш як $8^1/_2$—10 мэтраў.

Сад будзе даваць вялікі прыбытак толькі тады, калі Вы павялічыце ня толькі яго ўраджайнасьць, але яшчэ і якасьць ураджаю. Якасьць-жа залежыць ад сорту; чымся менш сартоў і чымся лепшыя сарты вы пасадзіце, тым якасьць ураджаю будзе лепшай. Але з аднаго толькі сорту ніколі не закладвайце садоў, бо гэткія аднасортныя сады зусім ня будуць даваць ураджаю. Садзеце 2-сартоў усяго 4—5. Для Аршаншчыны, Магілеўшчыны Горацкая станцыя прапануе гэткія сарты: антонаўку-камянічку, штрэйфлінг і бабушкіна—гэта нашы галоўныя прамысловыя сарты,—а з летніх—цынамонавае паласатае і ружовае, альбо папяроўку (белы наліў).

Кожную восень глебу ў садзе ўзарыце плугам глыбінёю на 3-4 вярш. Угнойвайце вашы сады. Увосень прывязеце торфу альбо чорнае зямлі з балота, па разьліку: 1 воз торфу на 5 маладых дрэў і 2-3 вазы на 5 дарослых дрэў і звалеце яго ў садзе ў плаcкую кучу ў 1/2 мэтра вышынёю. Пасыпайце гэту кучу попелам і палівайце яе гнаёваю жыжкаю. Вясною ўсю кучу разы два пералапацьце і праз 2-3 тыдні рассыпце торф па ўсяму саду (па 1/2-1 мэтраў ад ствалоў адступеце), а паверх яго—супэрфасфату па 2 кілёграма на кожнае дрэва і ўсё заарэце плугам на 2-3 вяршкі глыбінёю. Угнойвайце сады кожны год.

На зіму пабялеце ствалы Вашых пладавых дрэў мешанкаю з вапны і гліны, гэтым Вы выратуеце іх ад сонечных ажогаў і зьнішчыце шмат шкоднікаў саду.

**Горацкая С.-Г. Дасьледчая Станцыя.**

---

# Падвышэньне ўраджайнасьці—узрост прыбыткоўнасьці.

Кожнаму сьвядомаму селяніну зразумела, што недастатковая прадукцыя сельскай гаспадаркі затрымлівае ўзрост ня толькі сельскай гаспадаркі, але часткова і прамысловасьці. Ня гледзячы на гэта, цэны на тавары прамысловасьці паступова, бязупынна зьніжаюцца. Яскравым прыкладам гэтага зьяўляюцца цэны на мінэральныя ўгнаеньні, часткова на краміну (мануфактуру) і інш. Якраз у працілеглым напрамку, цэны на с.-г. тавары растуць.

За апошнія гады ў першую чаргу прычынай гэтаму ў нас на Беларусі зьяўляюцца нізкія ўраджаі. А раз нізкі ўраджай, дык сабекошт пуда с.-г. прадукцыі высокі, што і выклікае павялічэньне цэн. Відавочна, уся справа ў вышыні ўраджайнасьці. Праз павялічэньне ўраджайнасьці атрымліваецца большая прыбытковасьць гаспадаркі.

Мерапрыемствы, якія могуць быць ужыты для павышэньня ўраджайнасьці, звычайна, дзеляцца на агульна-эканамічныя, якія праводзіць дзяржава, і арганізацыйна-тэхнічныя, якія пераважна залежаць ад самога гаспадара. У гэтым артыкуле застановімся толькі на ўнутрыгаспадарчых і арганізацыйна-тэхнічных мерапрыемствах.

Тут у першую чаргу трэба яскрава падкрэсьліць няправільнасьць звычайнага падыходу да вызначэньня зыскоўнасьці некаторых мерапрыемстваў, якія падвышаюць прадукцыйнасьць гаспадаркі. Заўсёды патрэбна памятаць, што і пры нізкім, і пры павышаным ураджаі пэўны лік страт не залежыць ад велічыні ўраджаю. Да такіх страт належыць: кошт насеньня, апрацоўка глебы, страхоўка, падатак, утрыманьне гаспадарчых будынкаў, як гумно, клець і інш. страты. Скажам, усе гэтыя выдаткі зроблены, але глеба ня ўгноена і таму атрыман нізкі ўраджай пэўнай культуры, якая вельмі чула на ўгнаеньне. Зразумела, што вырашчваньне пры такіх умовах гэтай культуры будзе стратным. А калі-б яна была ўгноена, дык з пэўнасьцю можна было-б спадзявацца, што яна, у сувязі з падвышэньнем ураджаю, дала-б прыбытак (зыск).

Праверым гэта на прыкладзе, які ўзяты з жыцьця гаспадаркі паселку Малінаўка, на Случчыне.

У 1927-28 годзе ў аднаго гаспадара было засеяна пасьля канюшынішча, бяз гною, на сугліністай глебе 1,7 дзес. жытам. Вось яго страты і прыбыткі:

| №№ | Выдаткі | | | Прыбыткі | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | НА ШТО | Руб. | К. | ШТО АТРЫМАНА | Руб. | Кап. |
| 1 | Доля выдаткаў на будынкі, мёртвы інвэнтар, с.-г. падатак, страхоўку і інш. дробныя выдаткі. | 49 | 90 | Зерня 121,5 п. . . | 145 | 80 |
| | | | | Саломы 234 п. . . | 75 | 55 |
| 2 | Насеньня 25 пудоў . . . | 30 | — | Мякіны 15,8 п. . . | 7 | 09 |
| 3 | Працоўнае сілы ў пераводзе на поўныя мужчынскія дні=57 дзён | 57 | — | Разам . . | 228 | 44 |
| 4 | Конскіх дзён 22 . . . . | 46 | 20 | | | |
| | Разам . . . | 183 | 10 | | | |

У сувязі з тым, што ўраджай жыта быў даволі высокі—каля 71 п. на дзес. (таму, што пасеў яго быў зроблен на канюшынішчы), атрыман значны прыбытак (228 р. 44 к.—183 р. 10 к.)=45 р. 34 к., а ўсяго ад засеву жыта гаспадар зарабіў (57 р.+45 р. 34 к.)=102 р. 34 к.

У суседа гэтага гаспадара, на сумежнай палосцы таксама было пасеяна жыта, але бяз гною і не па канюшынішчы. Атрымана 47 п. зерня з дзесяціны. Калі падлічыць яго выдаткі і прыбыткі па тых-жа самых цэнах, дык у выніку атрымаем, што на той-жа самай плошчы 1,7 дзес. сусед выдаткаваў 47 р. 20 к., а гуртовага прыбытку атрымаў 152 р. 30 к. чыстага-ж прыбытку ўсяго 5 р. 10 к. Значна большую ўраджайнасьць, а значыць і прыбытковасьць у першым выпадку, у большай частцы, можна тлумачыць тым, што першы гаспадар у папярэднія гады панёс значныя выдаткі на засеў канюшыны, але гэтыя выдаткі ўжо былі зьвернуты сенам.

Возьмем другі прыклад—з жывёлагадоўлі. Карова, якая дае 9 фун. малака і важыць жывая 18 пуд., патрабуе для падтрыманьня жыцьця 6 кармовых адзінак у дзень і, у дадатак, 3 адзінкі на малако—усяго 9 кармовых адзінак. Калі адзінку корма, прыраўняўшы яе да аўса, ацаніць у 4 кап. (1 р. 60 к. пуд аўса), дык малако каштуе сабе 36 к., а ў малочнай арцелі за яго мажліва атрымаць, з разьліку 3 кап. фунт, толькі 27 кап. Трыманьне гэтай каровы пры паказаным кармленьні, калі ня лічыць атрымліваемага гною, відавочна ўбытачна.

Цяпер возьмем тую-ж самую карову, якая пры дадатковых кармох можа раздойвацца, альбо заменім яе на такую, якая напэўна можа раздаіцца. Тады падтрымліваючы корм застаецца той-жа самы—6 кармовых адзінак, дадамо яшчэ на малако 9 кармовых адзінак і атрымаем 27 фун. малака (на 3 фун. малака ідзе 1 кармовая адзінка). Пры такім кармленьні—у дзень кармы будуць каштаваць 60 к., а малако—81 кап. Карова стала, як відаць, вельмі прыбытковай. А што наша звычайная карова, пры дастатковым корме, можа даваць у дзень 27 фун. малака

і больш—гэта бясспрэчна. Усім вядома, што гарадзкія і местачковыя каровы яшчэ больш удойлівы.

Даданымі прыкладамі маецца на мэце больш яскрава падкрэсьліць наступнае зьявішча: калі якая-небудзь галіна ў гаспадарцы ўжо існуе і на яе ўжо выдаткаваны пэўныя сродкі, дык пэўную карысьць ад гэтай галіны мажліва атрымаць толькі тады, калі папярэднія выдаткі і мажлівасьці, якія ўтвораны гэтымі выдаткамі, будуць найпаўней выкарыстаны. Пры гэтым ня трэба застанаўлівацца перад дадатковымі выдаткамі, як працай, так падчас і грашыма, бо яны будуць зьвернуты з лішкам.

А ў нас часта робіцца наадварот. На добра падрыхтованай, належна ўгноенай глебе сеюць неачышчанае, непратраўленае насеньне і атрымліваюць галаўню, жытнік. Пры недахопе гною—ня сеюць на лёгкіх глебах лубіну, ня ўжываюць торфу, хаця яго шмат ляжыць у бліжэйшым балоце. Пры недахопе пахаці, кідаюць незаняты папар; пры недахопе сена—ня зьнішчаюць на сенажацях купніку, кустоў, не выдзіраюць моху і, наогул, вясной іх не падчышчаюць. На лёгкіх глебах ня сеюць сэрадэлі, хаця яна, як пажніўная культура, не зьмяншае плошчы пад іншымі культурамі, бо не займае месца на ўвесь год. Пры недахопе ведаў, пры няўменьні ўсё гэта з большай карысьцю зрабіць, не зьвяртаюцца да агранома, ня выпісваюць с.-г. часопісаў, газэт, хаця-б на таварыскіх умовах.

Зразумела, што паказанае датычыцца не да ўсіх сялян, але ў большасьці, запраўды, не скарыстаны ўсе мажлівасьці, якія маюцца тут-жа, у гаспадарцы, пад рукамі, каб падвысіць і ўраджайнасьць палёў, і ўдойлівасьць кароў, і палепшыць сенажаці, і наогул дасягнуць большай прыбыткоўнасьці гаспадаркі. **Б. Бойка.**

Навукова-Дасьледчы Інстытут.

---

# Ад гутарак да справы.

Шмат гутарак узьнята па падвышэньні ўраджайнасьці, але трэба сказаць, што калі мы іх ня будзем дапаўняць канкрэтнымі мерапрыемствамі, дык ураджайнасьць не скранецца з месца. Мы шмат агітуем за тое, што глыбейшае ворыва падвышае ўраджай, у той-жа час нашы с.-г. склады завалены аднаконнымі плужкамі. Набывае селянін гэты плужок і адмяжоўваецца ад суседа, арэ адзін і шкадуючы коніка, мелка. Па-мойму трэба прапагандаваць сялянам спрагаць коні для ворыва. Трэба, каб 2 суседы спрагалі-б сваіх конікаў і лепш заворвалі поле. У выніку і коням лягчэй і ўраджай падняўся-б, ды можа і да калектыву гэткія суседзі хутчэй падышлі-б, пераканаўшыся ў карысьці сумеснай працы.

Альбо возьмем такое зьявішча. Аграномам, а таксама і працуючым у цэнтральных с.-г. скадах, вядома, што фасфарытную муку трэба пад жыта падсяваць загадзя. Нашы-ж загатавіцелі прывозяць яе ня ў час і яна пападае селяніну праз с.-г. т-вы ўжо тады, калі селянін канчае сеяць. Ёсьць выпадкі, што расьсяваюць фасфарыт паверх пасеву жыта (з сёлетняй васеньняй кампаніі). Ад такога ўжываньня фасфарыту мы поўнага эфэкту мець ня будзем. Прымяняючы-ж штучнае ўгнаеньне, трэба дабівацца лепшай яго аплаты прыбаўкаю ўраджаю.

На гэткія факты трэба зьвярнуць належную ўвагу аграномам і загатавіцелям. Аграном **М. Савіч.**

(Заслаўскі р., Менскай акр.).

# Попел у справе падвышэньня ўраджаю.

Амаль усе сяляне ўпэўніліся ў карысьці мінэральных угнаеньняў, таму запатрабаваньні на іх з кожным годам павялічваюцца. Асабліва патрэбны парашкі бядняцкім і серадняцкім гаспадаркам, у якіх мала жывёлы, а таксама быўшым батраком, якія атрымалі зямлю ў працоўнае карыстаньне, а жывёлу толькі пачынаюць заводзіць. Пры такім становішчы, трэба вырашаць справу з угнаеньнямі, бо ня ўгноіўшы поля і праца не аплоціцца. Гной, як вядома, палажаны ў глебу ў дастатковай колькасьці, зьяўляецца самым лепшым угнаеньнем. Але дзе знойдзецца такая гаспадарка, каб мела гною колькі трэба. На дапамогу гною ідуць парашкі, але на парашкі трэба мець грошы, а іх таксама не заўсёды маецца ў патрэбнай колькасьці. Выходзіць як быццам справе немагчыма і дапамагчы. Але гэта ня так; калі зусім нельга замяніць гной, дык зрабіць глебу ня так чулай да яго адсутнічаньня ёсьць спосабы.

Попел, які атрымліваецца ў печы, зьяўляецца тым-жа мінэральным угнаеньнем. У нас попел ня зьбіраецца, а выкідаецца куды папала і прападае дарма. А між тым попел—каштоўнейшая рэч. Попел мае ў сабе тую-ж спажыву для расьлін, што і каліева соль, ды яшчэ ў дадатак трохі і фосфарнага квасу, такога-ж, які ў супэрфасфаце. Значыць, калі-б сабраць яго і належным чынам захаваць, дык недахоп гною ня так моцна адаб'ецца на зьмяншэньні ўраджаю. Для зьбіраньня попелу трэба прымайстраваць якую-небудзь скрынку пад паветкай, ці ў дрывотні, ды сказаць гаспадыні, каб туды сыпала попел, які выграбае з печы. Хаваць трэба абавязкова пад страхою, бо ён больш карысны тады, калі не ляжаў доўгі час пад дажджом. Дождж вымывае з попелу спажыўныя для расьлін матэрыі, калі і фосфар. Вымытага дажджом попелу трэба значна больш уносіць.

Тых матэрый, якія маюцца ў попеле, асабліва часта не хапае ў пяшчаных глебах. Тое-ж самае можна сказаць пра падзолавыя, тарфяныя і балотныя глебы. Уносіць попел можна пад кожную расьліну, але найбольш карысьней класьці яго пад бульбу, караньплоды, лён і канюшыну. Гэтыя расьліны заўсёды падвысяць ураджай. Апрача таго, яны становяцца мацнейшымі, напрыклад, лён, і больш устойлівымі супроць пашкоджаньняў рознымі шкоднікамі. Ёсьць сэнс уносіць попел на паплавы, якія ў нас да гэтага часу нічым ня ўгнойваюцца.

Вядома, што з сенам мы кожны год вывозім з поплаву пажыўныя матэрыі, у тым ліку і тыя, якія маюцца ў попеле. Пасыпаўшы попел, мы дамо магчымасьць падвысіць укос і палепшыць яго якасьць. Асабліва карысна ўгнойваць поплаў попелам на тых мясцох, дзе поплаў забалочваецца.

Пад жыта попел уносіцца перад заворваньнем папару. Пад яравыя пасевы найлепш уносіць з восені. Калі-ж прыходзіцца пасыпаць попелам вясною, дык трэба імкнуцца ўнесьці тыдні за тры да пасеву. Гэта робіцца для таго, каб попел расклаўся і стаў гатовым для карыстаньня ім расьлінамі. Лічба, колькі трэба ўносіць попелу на дзесяціну, залежыць ад таго, наколькі глеба бедна спажыўнымі матэрыямі. На больш забясьпечаных хопіць і 20 пуд., на бедныя-ж можна ўносіць 50—60 пуд. на дзес. Унесены попел на полі лепш зараз-жа заараць, або глыбока забаранаваць. Павярхоўнае ўжываньне попелу пасьля пасеву рабіць нельга, бо ён утварае скарынку глебы. Праз

скарынку маладыя, больш слабейшыя расьліны ня здолеюць прабіцца на паверх і могуць загінуць.

Сялянам, якія жывуць блізка каля гарадоў, ці іншых месц, дзе ёсьць фабрыкі, мэтазгодна забіраць попел з гэтых фабрык. Там ён зьяўляецца адкідам і таму яго аддадуць дарма, за перавозку-ж попел заплаціць падвышэньнем ураджаю на полі альбо сена на сенажаці.

Аграном **С. Карась.**

## Наш досьлед з азімым жытам.

У мінулым 1927 г. у селяніна-дасьледчыка хут. Графск, Бухарынскага с.-с., Жлобінскага раёну, Пастушкова Парфіра былі закладзены пад кіраўніцтвам Жлобінскага аграпункту два дасьледчых вучасткі; першы на тэму: уплыў штучных угнаеньняў, а таксама гною, торфу і лубіну на павялічэньне ўраджаю жыта і другі на тэму: уплыў тэрміну пасева на ўраджай жыта. Вучот рабіўся абмалотам усёй дзялянкі плошчай у 24 кв. саж. (даныя як угнаеньня, так і ўраджаю даюцца пералічанымі на дзес.). Па першаму досьледу атрыманы наступныя вынікі:

| №№ | НАЗВА ЎГНАЕНЬНЯЎ. | Угнаеньня на дзес. пудоў. | Атрымана з дзес. ураджаю пудоў. | |
|---|---|---|---|---|
| | | | Зярна | Саломы |
| 1 | Кантрольная (без угнаеньня) | | 50 | 75 |
| 2 | Калійная соль | 12 | 51,25 | 76,25 |
| 3 | Чылійская салетра | 9 | 85 | 121 |
| 4 | Супэрфасфат | 24 | 67,5 | 120,5 |
| 5 | Супэрфасфат + калійная соль | 24<br>12 | 62,2 | 12,7 |
| 6 | Супэрфасфат + чылійская салетра | 24<br>9 | 85 | 135 |
| 7 | Калійная соль + чылійская салетра | 12<br>9 | 73,7 | 107 |
| 8 | Супэрфасфат + калійная соль | 24<br>12 | 87,5 | 147 |
| 9 | Торф | 4000 | 57,5 | 91 |
| 10 | Лубін заворан у час цьвяценьня (высеяна 12 пуд). | | 60 | 110 |
| 11 | Гной | 2000 | 67 | 125 |

З табліцы відаць, што найбольшы ўраджай атрымаўся з 8 дзялянкі, якая была ўгноена поўнай мешанінай угнаеньняў. Відавочна карысьць ужываньня торфу, прыбаўка ўнясеньня якога павялічыла ўраджай на 7 1/2 пуд. на дзесяціну.

Ураджай-жа з вучастка па заворанаму лубіну даў 10 пуд. прыбаўкі, супроць кантрольнай. Калійная-ж соль, дзялянка № 2, унесеная асобна, прыбаўкі амаль не дала.

У другім досьледзе, параўнаньне тэрмінаў пасеву, атрыманы наступныя вынікі:

Ураджай з дзесяціны ў пудох.

| Час пасеву. | Зярна. | Саломы. |
|---|---|---|
| 1. 29 жніўня . . . | 70 | 142 |
| 2. 24 верасьня . . . | 60 | 107 |

Умовы глебы, угнаеньня, апрацоўкі і спосаб пасеву былі аднолькавыя. Ня гледзячы на гэта, ранейшы пасеў даў прыбаўкі 10 пудоў зерня і 35 пуд. саломы на дзесяціну.

Аграном **Гашальскі.**

(Жлобінскі агранамічны пункт).

---

# Як змагацца з вымачкамі.

Штогод сяляне маюць значныя страты ад затрыманьня вады на сваіх палёх, ад якой гінуць пасевы зернявых і іншых расьлін. Вельмі мала такіх гаспадарак у нашай краіне (асабліва ў сярэдняй яе частцы), дзе-б прыпын вады на палёх адсутнічаў.

Я лічу неабходным пазнаёміць сялянства з тымі звычайнымі спосабамі, якія калі і ня цалкам, дык усё-ж значна папярэдзяць страты ад вымачак. Трэба толькі іх своечасова скарыстаць сялянству.

1. Калі поле плоскае, нізкае, бяз ухілу, тады лепш усяго змагацца з вымачкамі шляхам дрэнаваньня палёў. Але дрэнаваньне вельмі дарагая справа, таму для выкананьня гэтага неабходна аб'яднацца ў мэліарацыйнае таварыства і тады выконваць гэту справу. Дрэнаваньне-ж вялікіх кавалкаў павінна рабіцца пры дапамозе дзяржавы.

2. Апрача нізкіх і сырых месц, на палёх часта сустракаюцца ўглубленьні, западзіны, якія маюць выгляд ісподкаў, дзе штогод вымакаюць пасевы. На такіх мясцох супроць застойваньня вады весьці барацьбу ня цяжка і сродкаў для гэтай мэты патрэбна мала. У самым нізкім месцы такой западзіны пракопваецца цэлы шэраг адтулін (калодзежаў). Адтуліны магчыма рабіць звычайнымі жалезнымі рыдлёўкамі, альбо спэцыяльнымі для гэтай мэты сьвёрламі (буравамі).

Для таго, каб збытак вады не затрымоўваўся ў адтулінах, а сьцякаў у ніжэйшыя пласты глебы, адтуліны неабходна капаць на такую глыбіню, дзе глеба не замярзае. Зьверху адтуліны закрываюць саломістым неперагніўшым гноем, альбо проста саломай, каб яны ў зімовы час не забіваліся сьнегам, а ўлетку не заплывалі зямлёй. Дажджавая і талая сьнегавая вада, па зробленых такім чынам адтулінах, будзе сьцякаць у ніжэйшыя пласты глебы і рассасвацца падглебай.

Неабходна памятаць, што калі адтуліны робяцца на азімых пасевах, дык трэба іх капаць з восені на глыбіню 50—65 см, а вясной усе адтуліны трэба агледзець і ачысьціць. Такія адтуліны, па даных Сумскай с-г. дасьледчай станцыі, даюць добрыя вынікі [1]).

---

[1]) У некаторых выпадках вада ня будзе ўпітвацца падглебай, напрыклад, калі падглеба чыстая гліна.

3. Карысна на такія западзіны вывозіць сьмецьце, якога ў кожнай гаспадарцы знаходзіцца дастатковая колькасьць.

4. Акрамя паказаных спосабаў барацьбы з вымачкамі, магчыма раіць спосаб, спрабаваны на дасьледчым полі Ціміразеўскай с-г. Акадэміі праф. В. А. Харчанка—пасеў збожжа на гранках (грэбнях). Гэты спосаб таксама просты, але заўсёды на нізкіх месцах дае добрыя вынікі.

Пасеў збожжа на гранках (грэбнях) робіцца альбо радковымі сяўнікамі, альбо ў роскід і насеньне заворваецца асыпнікам. У першым выпадку ў пачатку робяць гранкі асыпнікам, а потым сеюць радковым сяўнікам, устанавіўшы належным чынам сашнікі. У другім—раней робяць пасеў на падрыхтаванай глебе, а потым заворваюць асыпнікам.

Як першы, так і другі спосабы вельмі добрыя, а таму сялянам неабходна скарыстаць іх у сваёй гаспадарцы.

Такім чынам, кожны з пералічаных вышэй простых спосабаў дае магчымасьць забясьпечыць гаспадаром свае пасевы ад тых вялікіх страт, якія даюць ім вымачкі.

Аграном Г. Кузін.

(Ляды, Аршанскай акр.).

---

# Падрыхтоўка і захаваньне насеньня лубіну і сэрадэлі.

Няспрыяючае надвор'е ў гэтым годзе мясцамі дрэнна адбілася на пасьпяваньні ярыны наогул і, асабліва, лубіну і сэрадэлі, таму і неабходна на іх застанавіцца.

Справа ў тым, што лубін і сэрадэля шмат дзе не дасьпелі—нават там, дзе гэтага нельга было і чакаць. Частка лубіну засталася на полі, а частка зьвезена ў небясьпечным становішчы, якое пагражае якасьці насеньня і патрабуе вялікай увагі да яго захаваньня.

На будучыя гады трэба сеяць на насеньне лубін і сэрадэлю як мага раней, не забываючы пры гэтым, што лубін, у адрозьніваньне ад сэрадэлі—баіцца моцных веснавых замаразкаў. Што-ж датычыцца сэрадэлі, дык яе, бязумоўна, можна сеяць зараз-жа, як растае сьнег, калі толькі дазваляе поле.

Калі-ж, ня гледзячы на сваячасовы пасеў лубіну, насеньне яго не дасьпяе (як гэта было ў бягучым годзе), дык гаспадару трэба на полі вырашыць: ці жаць лубін увесь, ці вырваць рукамі толькі дасьпеўшыя расьліны, дзе тры чвэрткі стручча ўжо пажаўцелі, а рэшту заараць.

У выпадку, калі зялёнымі выглядае большая палова стручча—больш карысьці будзе лубін цалкам заараць, сабраўшы, па магчымасьці, асобныя сьпелыя струкі.

Зжаты лубін трэба добра дасушваць на полі ў стаячых кучках ці снапох, а кладучы ў стоўп (тарпу)—абавязкова перасллойваць сухою саломаю, якая будзе выцягваць ад лубіну вільгаць і затрымліваць цьвіласьць.

Таўшчыня кожнага пласту саломы і лубіну залежыць ад сухасьці апошняга: чым сырэйшы будзе лубін, тым болей трэба саломы, але пажадана, каб паўмэтра (каля $^3/_4$ аршына) лубіну перакладаліся такім-жа пластом саломы.

Калі памяшканьне, дзе зложаны лубін, шчыльнае, дык неабходна яго ў сухую пагоду праветрываць (адчыняць дзьверы).

У такім становішчы лубін ляжыць да вясны і гэты спосаб захаваньня яго трэба лічыць найлепшым, бо захаваньне абмалочанага насеньня патрабуе прасторнага і сухога памяшканьня, частага перамешваньня і праветрываньня. Пры гэтым таўшчыня насыпу павінна быць вельмі нязначнай: для сухога насеньня да 4 вяршкоў, а для вільготнага—ня звыш аднаго.

У выпадку-ж псаваньня насеньня, ня гледзячы на ўсе засьцярогі, ня трэба лічыць гэта канчатковай стратай і ні ў якім разе не выкідаць лубіну вон, а неабходна скарыстаць яго на ўгнаеньне. Для гэтага зерня добра падсушваецца і мелецца ў парашок, а ў крайнім выпадку і цалкам раскідаецца па полі, *вытрымаўшы загадзя ў мокрай кучы, каб не прарасьлі якія-небудзь зярняты разам з ярынаю.*

Значна прасьцей справа з сэрадэляй, якая малоціцца звычайна з восені. Найлепш малаціць яе адразу-ж пасьля сушкі, пакуль ня ўсьпее адысьці. Сухую яе лёгка вымалаціць без малатарні і цапоў, абіваньнем, ператрасаючы толькі добрым віламі, прычым у насеньні будзе менш пустых зярнят, а ў сене—больш спажыўных частак.

Неабходна адзначыць, што шмат насеньня сэрадэлі траціцца на полі пры сушцы, якую неабходна рабіць вельмі асьцярожна. Найменш будзе страты, калі падсохшыя зьверху пракосы сэрадэлі на другі бок не варочаюцца, а ставяцца ў невялікія кучкі (сырым бокам наверх), якія альбо самі дасыхаюць, альбо праз дзень — другі складаюцца ў большыя, вострыя копкі, дзе і дасыхаюць канчаткова.

Пасьля абмалоту насеньне сэрадэлі, таксама як і лубіну, рассыпаецца на сухой падлозе вельмі ценкім слоем і даглядаецца як і лубінавае.

Апошняя парада гаспадаром—ня сеяць насеньня без вызначэньня яго ўсхожасьці: асабліва гэта датычыцца такога далікатнага зерня, як лубін і сэрадэля.

Неабходна хоць у чарапкох з пяском (накрыўшы чыстаю анучкаю) прарасьціць насеньне і сеяць па працанту ўсхожасьці.

Пэўная ўсхожасьць—першы залог добрага ўраджаю.

**Я. Жогла.**

Навукова-Дасьледчы Інстытут.








## Сяляне-дасьледчыкі і праблема павялічэньня ўраджаю.

21-га кастрычніка, на агульным сходзе сяляи вёскі Гадзілавічы, быў пастаўлен справаздачны даклад сялян-дасьледчыкаў аб выніках досьледаў у гэтым годзе. Дакладчыкі былі сяляне Емельян Нікіцін, з пасёлку Гальняя Дубрава і Віньнікаў Кірыла з вёскі Гадзілавічы.

Абодва сяляне-беднякі, якія перасяліліся на новыя вучасткі з вёскі ў 1922 годзе. Глеба іх бедная, пясчаная.

У Нікіціна Емельяна быў пастаўлен адзін досьлед з бульбаю—уплыў мінэральных угнаеньняў і другі—карыснасьць (рэнтабельнасьць) пасеву кораньплодаў і бульбы. Вынікі атрымаліся такія:

| Ураджай кораньплодаў і бульбы | | |
|---|---|---|
| НАЗВА КУЛЬТУР | Батвіньня ў пуд. на гэкт. | Вага каранёў (бульбы-клубняў) у пуд. на гэктар |
| Бульба . . . . . | — | 590 |
| Турнэпс Бартфэльскі . . . . | 666 | 3932 |
| Турнэпс Астэрзунскі . . . . | 780 | 3263 |
| Турнэпс Шасяцітыднёвы . . . | 360 | 2015 |
| Морква зялёнагаловая . . | 216 | 687 |
| Бручка багэмская . . . | 224 | 1262 |
| Буракі экендорфскія . . | 77 | 137 |

| Ураджай бульбы па розных ўгнаеньнях | | |
|---|---|---|
| НАЗВА ЎГНАЕНЬНЯЎ | Ураджай клубняў у пуд. на гэктар | Больш, чым на кантрольнай дзялянцы |
| Кантрольная . . . . | 978 | — |
| Сернакіслы аміяк . . | 1073 | 95 |
| Сернакіслы аміяк+калійная соль . . . . | 1104 | 126 |
| Сернакіслы аміяк + супэрфасфат . . . | 1268 | 270 |
| Чылійская салетра . . | 1088 | 110 |

У Віньнікава Кірыла былі пастаўлены досьледы: уплыў мінэральных угнаеньняў пад бульбу і сортаспрабаваньне азімага жыта. Вынікі наступныя:



| Ураджай бульбы | | Ураджай азімага жыта | | |
|---|---|---|---|---|
| НАЗВА ЎГНАЕНЬНЯЎ | Ураджай клубняў у пуд. на гэкт. | НАЗВА СОРТУ | Пудоў на гэкт. Зярна | Пудоў на гэкт. Саломы |
| Кантрольная . . . . . . | 458 | Пяткускае . . . . . | 72,3 | 151 |
| Сернакіслы аміяк . . . . . | 524 | Мясцовае . . . . . | 40,4 | 99 |
| Калійная соль . . . . . . | 514 | Вяйбенскае . . . . | 47,5 | 118 |
| Сернакісл. аміяк+калійная соль | 535 | | | |
| Сернакісл. аміяк+супэрфасфат | 522 | | | |
| Сернакісл. аміяк+супэрфасфат+калійная соль . . . | 540 | | | |

Лічбы сьведчаць аб вельмі карысным сартовым насеньні пяткускага жыта (у Віньнікава Кірыла) і наогул добры ўраджай турнэпсу бартфэльскага (у Нікіціна Емельяна); акрамя таго, усюды мінэральнае ўгнаеньне павялічвае ўраджай бульбы.

У сваім дакладзе Віньнікаў Кірыла казаў: „вам усім вядомы той вучастак зямлі, на якім я пачаў арганізоўваць сваю гаспадарку—гэта чыстыя пяскі, дзе адмаўлялася расьці нават і грэчка. Але-ж, ня гледзячы на гэта, да будучага году я ўжо маю каля 34 пуд. насеньня лубіну. У гэтым годзе я паказваў на с-г. выстаўцы экспанаты азімага жыта па лубінаваму ўгнаеньню, яны былі прызнаны лепшымі за ўсе прадстаўленыя на выстаўцы“.

Як ні супярэчыў (пасьля ўступнага слова агранома) грамадзянін Дарог—селянін той-жа вёскі Гадзілавічы, кажучы, што „бяз гною нічога ня зробіш“, але калі стаў гаварыць дасьледчык Віньнікаў аб сваіх досьледах, дык і Дарог змоўк, дадаўшы пасьля—„ну, гэта праўда, зямля яго была вельмі кепская“.

Вось гэты мэтад аграпрапаганды, калі сам селянін-дасьледчык робіць справаздачу на агульным сходзе аб сваіх досьледах, зьяўляецца вельмі карысным, ён значна палягчае працу агранома па распаўсюджваньню тых ці іншых аграмерапрыемстваў. Было-б добра, каб кожны дасьледчык зрабіў даклад аб сваіх досьледах на агульным сходзе сялян. Бо калі селянін, які ўсім вядомы сам, як і яго поле, на прыкладзе пакажа пра тое, што ў яго гаспадарцы палепшана і якім чынам гэта дасягнута, дык заўсёды знойдуцца пасьледавальнікі, якія могуць атрымаць такую-ж карысьць у сваіх гаспадарках, якія таксама маюць неўрадлівую, кепскую глебу.

Практыка сялян-дасьледчыкаў паказвае, што лепшым спосабам распаўсюджваньня вынікаў дасьледчых станцый зьяўляецца праца сялян-дасьледчыкаў. Гэту працу трэба як магчыма пашыраць і паглыбляць, бо кожны селянін-дасьледчык дзеля свайго суседа і, наогул, навакольнага насельніцтва, будзе выпаўняць ролю штурхача да лепшых спосабаў гаспадараньня. Усе гэтыя магчымасьці мы павінны скары-

стаць для павялічэньня ўраджаю. Нават ня ўжываючы складаных мерапрыемстваў, якія патрабуюць перабудовы ўсёй гаспадаркі таго ці іншага с-г. раёну, можна ўпаўне павысіць у два, а то і больш разоў ураджай, а ў кожным раёне гэтыя магчымасьці ёсьць, трэба толькі іх высьветліць, а высьветліць іх можна толькі пры дапамозе сялян-дасьледчыкаў.

Агроном **В. Рубанаў**.

(Турская с-г. Дасьледчая Станцыя).

---

# Як я атрымаў 2400 пудоў бульбы з дзесяціны.

У 1924 годзе, зьняўшы авёс на вучастку № 3, плошча якога ў поўдзесяціны, іржоньне я заараў глыбока і праз тры тыдні паскародзіў. У 1925 г., раньняй вясною, пасеяў на гэтым вучастку лубін і забаранаваў спружыноўкай, а потым звычайнымі баронамі прыскародзіў. Месца было пустое і глеба супяшчаная, а між тым лубін парос вельмі добры, густы, вышынёй па грудзі. Калі пачалі на ім завязвацца першыя стручкі, я яго пракаціў катком такім чынам, каб магчыма было заворваць плугам у загон па схілу, як кажуць, па шэрсьці. Заворваў лубін глыбінёй да 3-х вярш. параконным плугам фірмы—„Фэнікс". Наверсе не засталося ні аднэй галінкі. Праз два тыдні забаранаваў, а ў пачатку жніўня расьсеяў на гэтым вучастку 10 пуд. попелу і, у той-жа дзень, 5 пуд. ачышчанага гатунковага жыта. Забаранаваў пасеў звычайнымі баронамі. Жыта было вельмі добрае, без ніякага зельля, але вясной 1926 г. яго пашкодзіў град (на 15%). Ня гледзячы на гэта, я намалаціў з поўдзесяціны 48 пуд. чыстага жыта і каля 70 пуд. саломы, што ў пераліку на дзесяціну дае 96 пуд. зерня і 140 пуд. саломы. Прыраўніваючы жыта да сваіх суседзяў, у якіх яно было на гнаі, у мяне ўраджай на лубіне з попелам быў на 30% большы.

Сабраўшы жыта, іржышча зараз-жа заараў на $3^1/_4$ вярш. глыбіні плугам Сухэні (двухконным). Той вучастак, які назначыў пад бульбу, на зіму паскародзіў. У канцы сакавіка 1927 г. я дастаў бульбу з ямы (з падпольля, дзе маю склеп) і рассыпаў па хаце тонкім пластом на асьвятлёным месцы, а таксама зрабіў палаткі ў вышкі на сярэдзіне вакна (каб не зацямніць бульбы, рассыпанае на падлозе) і таксама насыпаў бульбы (для бульбы маю асобную хату). Да часу пасеву, у кожным вочку бульбы парасьлі кароткія, грубыя з зялёнымі маленькімі лісточкамі парасткі, а сама бульба правяла. Такі спосаб я практыкую ня першы год, ад чаго павялічваецца ўраджай і бульба сьпее раней на два тыдні. Апрацоўку вучастка я рабіў наступным парадкам: раньняй вясной 1927 г. выпахаў пружыноўкай удоўж і поперак па аднаму разу да 2-х вярш. глыбіні, пасьля чаго навазіў падгнойнай зямлі з хлявоў, якія стаялі каля 60 год і ніколі падгнойная зямля не выкапвалася. Капаў зямлю да 4-х вяршкоў глыбіні. Вывез усяго 45 вазоў, па 45 пуд. воз, што складае разам 2025 пуд. і раскідаў яго роўным пластом па ўсёй пахаці.

У час пасеву бульбы, каб не абціраліся парасткі, бульбу ў мяшкі ня сыпалі, а асьцярожна клалі ў кошыкі і садзілі ў боразну. Садзілі бульбу мелка, на паўтара вяршкі глыбіні і ў адлегласьці адна ад другой на 6-7 вяршкоў. Кожную бульбіну пасыпалі малой колькасьцю

попелу, які набіраўся ў кошык і над кожнай пасаджанай бульбай кошык падтрасаўся. Бульбы пасеяў каля 50 п., а попелу пашло каля 20 пуд. Парожную борозну абганяў глыбей на два вяршкі, звычайным плугам адзіночкай сухені. Як стала бульба прарастаць, паскародзіў драўлянай бараной. Праз некаторы час асыпаў акучнікам і яшчэ раз паскародзіў звычайнай бараной. Пасьля другога асыпаньня рабіў полку і абгортваньне кожнага каліва рукамі, так што каля кожнага куста зрабілася горка зямлі, як купіна. Бульбоўнік парос вельмі вялікі, які пасьля цвету праз тры тыдні зжаў і высушыў, якога было каля 100 пуд. корму на зіму. Ураджай бульбы атрымаўся надзвычайна добры, на кожную квадратовую сажань адзін пуд. Уся бульба буйная і сярэдняя—дробнай амаль ня было. Ня гледзячы на мокрае лета, гнілой бульбы ня было. Пад кожнай націнаю ў гнязьдзе было да 22 бульбін. Усяго з вучастка 1200 кв. саж. сабраў 1203 пуды бульбы, што выходзіць на дзесяціну 2406 пуд. Ваколічныя сяляне вельмі зьдзіўлены такім ураджаем. Ды і сам я сёмы год вяду досьледы, а такі ураджай яшчэ першы. У той час, на кантрольным вучастку, бяз ніякага ўгнаеньня, атрымаў ураджаю ўсяго 7 фун. бульбы на 1 кв. саж., што выходзіць на дзес. 420 пуд., з якіх шмат дробнай і да 20% гнілой.

Прыводжу некаторыя параўнаньні з досьледамі мінулых гадоў. Так у 1925 годзе на дасьледчым вучастку № 5, на перапрэлай і перагарэлай зямлі меў ураджай бульбы на 1 кв. саж. 34 фун., што выходзіць на дзес. 2040 п., а на вопытным вучастку, гародным, пасьля бобу быў пакладзен чалавечы гной, прыблізна адзін пуд на 1 кв. саж. (гной сыры з глазэту), ураджай быў 33 фун. бульбы, або на дзес. выходзіць 1980 пуд. На вопытным вучастку, на канюшынішчы, быў пакладзен курыны гной і авечы, прыблізна па паўпуда на 1 кв. саж. кожнага паасобку,—ураджай быў на вучастку з курыным гноем 30 фун. на 1 кв. саж. (1800 пуд. на дзес.), а з авеччым гноем на 1 кв. саж. 21 фун. (1260 пуд. на дзес.). На кантрольным-жа вучастку ураджай быў, у сярэднім, 600 п. на дзес. У зьвязку з пабудовай буйнага крухмальнага завода ў м. Талачын, сяляне вельмі зацікаўлены досьледамі бульбы. На бягучую вясну буду закладаць досьледы з парашковым угнаеньнем.

Селькор-дасьледчык **Акшэўскі.**

(в. 1-я Брылеўка, Талачынскага р.).

Зьмяшчаючы Ваш надзвычайна цікавы артыкул, рэдакцыя просіць падзяліцца сваімі вынікамі аб уплыве штучных (парашковых) угнаеньняў на ўраджай бульбы, калі Вам удалося такі досьлед залажыць. Пішэце падрабязьней, як Вы закладаеце досьледы, на якіх дзялянках, па якіх інструкцыях і як улічваеце ўраджай, ці з усяе дзялянкі, ці толькі з квадратовага сажню. Ці ёсьць паўторнасьць дзялянак. Ці зьвязаны Вы сваёй дасьледчай працай з Інстытутам сялян-дасьледчыкаў, які працуе ў Менску ў Навукова-Дасьледчым Інстытуце імя Леніна.

Заўвага. Тое, што бульбоўнік парос надзвычайна вялікі, ня вельмі добра—гэта сьведчыць, што Вы занадта загусьцілі бульбу. Пры такім угнаеньні трэба было садзіць ня менш, як на 12—14 вярш., гэта значыць радзей у 2 разы, тады-б і сярэдняй, а ня толькі дробнай бульбы было-б мала і ўраджай мог-бы быць і яшчэ большы.

**Рэдакцыя.**

# Карысьць ад мінэральных угнаеньняў.

У гэтым годзе В-Крушынаўскім гуртком селькораў закладзена цэлы шэраг досьледаў: ільну-даўгунцу па мінэральных угнаеньнях, бульбы, лубіну на насеньне ў розныя тэрміны пасеву і г. д.

Але ня ўсе нашы досьледы далі належныя вынікі. Так, ячмень— сорт „Залаты“, атрыманы з Дзецкага сяла ад Інстытуту Прыкладных Навук, з прычыны кепскага надвор'я, зусім загінуў (раньнія вясновыя дажджы, а потым халады).

Побач з усімі досьледамі, падзелімся з чытачом „Плуга“ вынікамі досьледу пасева бульбы на мінэральным угнаеньні. Калі аграном закладаў вучастак пасеву ільну-даўгінцу, я папрасіў у яго 15 фунтаў мінэральнага ўгнаеньня для пасева бульбы. Ён маю просьбу выканаў і даў мне 5 фун. калійнай солі, 5 фун. супэрфасфату і 5 фун. сернакіслага амонія. Гэтае ўгнаеньне я ўнёс на плошчу 200 кв. мэтр за дзень да пасеву бульбы, на пяшчанай глебе, якая ўгнойвалася толькі 4-5 год таму назад (вучастак школьны і ён да гэтага часу пуставаў). Сеялася вінакурка (чырвоная бульба) на адлегласьці поўмэтра каліва ад каліва і праз баразну. Пасеена 25 мая, пазьней, чым у сялян. Высеена на 200 кв. мэтр 32 кгр.

Усходы бульбы былі добрыя. Догляд далейшы быў звычайны, два разы бульба абганялася асыпнікам.

Прыборку зрабілі 10 кастрычніка. Сабрана з гэтага вучастку 320 кгр., што складае на гэктар 16000 кгр., або 1000 пуд. У той-жа час у сялянства сярэдні ўраджай 500—600 пуд. Цікава адзначыць, што на ўгнаеньні амонія бульба была як-бы лепшая і пад калівам знаходзілі да 40 бульбін, пры чым 2-3 бульбіны вялікія, а рэшта меншыя— дробныя. Гэты досьлед пасеву бульбы на мінэральным угнаеньні яшчэ лепш сябе апраўдаў, як апісаны ў часопісі „Плуг“ № 5, за 28 г., стар. 18.

Дасьледчык **Я. М. Савіцкі.**

(в. В-Крушынаўкаага, Рагачэўск р.).

---

# Што дае зяблевая воранка.

У 1926 г. я ўзараў усё поле пад ярыну на зіму. Але так як я мысьліў зрабіць параўнаньне, дык частку на зіму пакінуў нявоpанай. Вясною ў 1927 г., як толькі растаў сьнег і крыху падсохла глеба, я ўзараў астаўленую частку поля. Праз некалькі тыдняў я адмерыў на самым роўным месцы, поруч адна з другою, пляцоўкі па 100 кв. мэтраў і пабаранаваў іх. Надвор'е стаяла добрае, таму глеба хутка прасохла. Пасьля гэтага я ўзьмяшаў увесь пляц, разам з дасьледчымі дзялянкамі і пасеяў ячмень. Высеяў па $12^1/_2$ фун. (5 кілёгр.) двухрадовага ячменю на кожную дзялянку. Надворныя ўмовы (пагода) былі добрыя, і ячмень у хуткім часе ўзышоў. Усходы былі дружныя і ячмень рос добра. Але ўжо і па надворнаму выгляду магчыма было адрозьніць ячмень на ўзоранай з восені глебе: колер яго быў значна зелянейшы і буйнейшы, чымся ячменю, які быў пасеяны на ўзоранай вясною глебе.

Нажалі ячменю з дзялянкі па васеньняму ворыву 97 снапоў, а па веснавому 79 снапоў. Салома была амаль што аднолькавая. Ячмень

праз тыдзень добра высах, і я зьвёз яго, памалаціў, а салому і зерня зважыў. Вынікі такія:

| НАЗВА ДЗЯЛЯНАК | | Ураджай з дзял. ў 100 кв. мэтр. | | У пераліку на гэктар | | Прыбаўка ўраджаю | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | Пуд. | Фун. | Пуд. | Фун. | У пуд. | У %% |
| З дзялянкі: | | | | | | | |
| Апрац. з восені | зерня | 4 | 15 | 43 | 30 | 4 п. 20 | 11,5 |
| | саломы | 5 | — | 50 | — | 5 п. 20 | 12,4 |
| Апрац. вясной | зерня | 3 | 37 | 39 | 10 | | |
| | саломы | 4 | 18 | 44 | 20 | | |

Такім чынам, перад намі, як у люстры, адбіліся вынікі рознага тэрміну апрацоўкі глебы пад ярыну. Асеньняя воранка дае 11,5 проц. прыбаўкі ўраджаю, або 4 п. 20 ф. зернят на гэктар.

Сяляне, у каго ёсьць мажлівасьць узараць на зіму сваё поле, дык паспрабуйце паставіць такі досьлед. **Г. Воўк.**

---

# Як захаваць на зіму насеньне ярыны.

Часта здараецца—селянін добра апрацуе глебу, у час пасее, а ўсходы рэдкія,—каліва ад каліва на аршын. Што рабіць селяніну? Падсяваць новага насеньня не выпадае, бо бараною патрывожыш, павырываеш маладзенькія расьлінкі. Перасеяць нанава няма насеньня—так і застаецца. А як прыдзе час жніва, дык прыходзіцца поўзаць і зьбіраць па каліву. Ды колькі ты яго нажнеш—добра калі зьбярэш высеянае насеньне. Незадачы штурхаюць селяніна на думкі—пэўна ня ў добрую пару пасеяў, вось і пакараў мяне бог. Праўда, ураджай шмат залежыць і ад пары высеву, і ад стану надвор'я і глебы, але найбольш яно ня ўзыходзіць ад дрэннай якасьці насеньня.

Па маіх назіраньнях—вялікі лік зярнят ня ўзыходзіць ад таго, што яго дрэнна захоўваюць да вясны. У нас часта здараюцца дажджлівыя восені, як і ў гэтым годзе. Прыходзіцца звазіць снапы з поля не прасушанымі. Так-сяк абмалочанае зерне сырым застаецца ў засеку, дзе яно прэе і псуецца. А бывае, што і сама засека ня добра агледжана—зацякае і не праветрываецца—ад чаго ўтвараецца вільготнасьць і затхласьць. Зерне згараецца, прэе, псуецца і губляе сваю ўсходжасьць. На погляд здаецца яно сабе і дарма, але ня ўсходзіць.

Як-жа захаваць зерне? Насеньне аўсу, ячменю, пшаніцы і інш. ярыны трэба ссыпаць у такі засек, які добра агледжан—абмазан, прасушан, не зацякае. Засеку лепш мець шырокую, але ня глыбокую, каб насеньне не ляжала тоўстым пластом. Калі зерне сыраватае, трэба яго высушваць на вялікіх пасьцілках на сонцы. Сушыць на печах, ці ў печах, як гэта часта робіцца, ні ў якім разе нельга, бо можна цалкам пашкодзіць зерне; яно папражэцца, паморшчыцца і страціць усходжасьць.

У працягу зімы вельмі пажадана некалькі разоў зерне варушыць і пераварачваць рукамі або шуфлем. Памяшканьне, дзе хаваецца зерне, павінна часта праветрывацца. Часьцей трэба адчыняць дзьверы днём або мець спэцыяльныя вакенцы з дротавай сеткаю, каб ня лёталі птушкі. Апрача гэтага, яшчэ трэба берагчыся мышэй. Трэба засеку абмазаць глінаю, каб ня было дзірак, праз якія мышы лазяць пажывіцца зернятамі. Бо калі мыш раскусіць, надкусіць зерне, дык яно ўжо няўзыйдзе. Наогул кажучы, у часе хаваньня насеньня трэба за ім даглядаць і зьнішчаць усе перашкоды і ўсіх шкоднікаў. Трэба памятаць прыказку—добра захаваеш, добра і знойдзеш.

Селянін З. Бірала.

---

# Дзяржаўная дапамога вёсцы.

## Як арганізаваць мэліарацыйнае таварыства.

Калі плошча няўжытковай зямлі знаходзіцца ў карыстаньні многіх гаспадарак, кожная з іх паасобку ня можа мэліараваць свайго вучастку. Вынікі такой працы былі-б зьнішчаны сумежнымі вучасткамі няўжытковай зямлі. Таму мэліарацыю трэба праводзіць агульнымі сіламі ўсіх яе сукарыстальнікаў.

Бывае часта, што некаторыя з гаспадарак, якія карыстаюцца вучасткамі няўжытковай зямлі, ня хочуць прымаць удзелу ў яе мэліарацыі. Закон дае магчымасьці ў прымусовым парадку ўключыць іх у мэліарацыйнае таварыства. Робіцца гэта так:

Сельскі савет, альбо актыўная група зямлякарыстальнікаў склікае на агульны сход прадстаўнікоў усіх гаспадарак, землі якіх уваходзяць у склад няўжытковай плошчы. Калі большасьць удзельнікаў сходу вынесе пастанову аб утварэньні мэліарацыйнага таварыства, меншасьць без яе згоды уключаецца ў склад таварыства, карыстаецца ў ім усімі правамі і нясе ўсе абавязкі нароўні з іншымі яго членамі.

Агульны сход асоб, якія ўтвараюць мэліарацыйнае таварыства, прымае яго статут і выбірае 5 прадстаўнікоў для вядзеньня справы аб рэгістрацыі статуту. Абраныя прадстаўнікі падпісваюць статут, складаюць сьпіс членаў мэліарацыйнага таварыства і пасылаюць усе дакуманты ў акруговы зямельны аддзел з просьбай зарэгістраваць таварыства.

Зямельны аддзел па гэтай заяве робіць на месцы праз тэхніка абсьледваньне. Высьветліўшы магчымасьць і мэтазгоднасьць праэктуемай мэліарацыі, акрземаддзел рэгіструе статут. Мэліарацыйнае таварыства набывае тады ўсе правы юрыдычнай асобы. Можа выбіраць органы кіраваньня—праўленьне і рэвізыйную камісію. Карыстаецца правам атрыманьня пазычак і на данадзяленьня зямлёю з запаснага фонду для мэліарацыі і можа, наогул, ад свайго імя весьці ўсе справы ў судовых і іншых дзяржаўных установах.

Па хадайніцтву таварыства зямельны орган праз тэхніка бясплатна складае мэліарацыйны праэкт, на падставе якога таварыства выконвае належныя работы.

Я. Вішнеўскі.

# ЖЫВЁЛАГАДОЎЛЯ



## Падрыхтуйце хлявы да зімы.

*(Па Юрмаліяту).*

Усякі селянін пасьля прыборкі з поля, ўвосень, аглядае сваю хату: вокны, дзьверы, але ня прывык яшчэ наш селянін падумаць і аб сваёй жывёле. Вельмі часта сустракаецца ў вёсках, што ўзімку каровы дрыжаць і мерзнуць ад холаду, або мучацца ад вялікай духаты. Зразумела, што гэта дрэнна адбіваецца на колькасьці ўдою малака і на здароў'і жывёлы, бо вядома, што жывёла патрабуе чыстага паветра, цяпла і сьвету. Калі мы ня будзем клапаціцца аб гэтым, дык хоць і добра будзем карміць карову, але малака яна будзе даваць мала, бо яна будзе нудзіць і кепска есьці ў дрэнным хляве.

Улетку, калі скаціна большую частку дню знаходзіцца ў полі, на пашы, гэта яшчэ ня так шкодна. За тое ўзімку, калі скаціна амаль што цэлы дзень стаіць у хляве, неабходна яго так падрыхтаваць, каб карову вясною ня прышлося падымаць. Што-ж для гэтага патрэбна зрабіць?

Першае,—трэба ўцяпліць хлеў. У халодным хляве карова за зіму зьесьць больш сена і іншых кармоў пудоў на 15, а малака дасьць менш, бо многа корму патрабуецца на награваньне цела жывёлы, якое ў халодным хляве скарэй астывае і ў вялікі мароз жывёла можа нават ад гэтага і захварэць. Трэба зрабіць так, каб у хляве цяплыня заўсёды была-б ня менш 12—14 градусаў. Для гэтага неабходна ўвосень аглядзець усе шпаруны ў сьценах, усе шчэлкі і пазатыкаць іх пакульлем.

На столь, калі яна маецца ў хляве, насыпаць зьверху на некалькі вяршкоў сухой кастрыцы, пілавін, альбо торфу. Там, дзе столі няма, кладуць жэрдкі, а наверх салому. Дзьверы трэба абіць саломенымі матамі, або старымі мяшкамі.

Другое,—у хляве павінна быць заўсёды чыстае паветра. Мы добра ведаем, што ў будынку, дзе знаходзіцца шмат жывёлы, а таксама нават і людзей, калі паветра не мяняецца, дык там цяжка дыхаць. Кроў ня ачышчаецца і атраўляе арганізм да таго, што можна нават самлець. Трэба зрабіць так, каб паветра ў хляве было чыстае, тады і жывёла будзе добра сябе адчуваць і дасьць больш малака. Кожны гаспадар можа сам зрабіць сабе ў хляве вэнтыляцыю, справа гэта не вялікая: бяруць чатыры цалёвыя дошкі, зьбіваюць іх як скрыню, пасярэдзіне дзьве дошкі наўскось і ставяць яе ў хляве, над жывёлай так, каб верхні канец быў на 1 аршын вышэй даху. Увярху і ўнізу ў кожнай старонцы трэба прарэзаць дзіркі 4-х кантовыя, як форткі ў вокнах, праз якія паветра ўходзіць і выходзіць. Унізу яшчэ робяць засланкі, каб можна было зачыняць у кепскую пагоду альбо калі патрабуецца. Такія трубы ці так званыя каміны вельмі добра прачышчаюць па-

ветра. Аднаго коміну хопіць на 20 галоў жывёлы. У сялянскім хляве звычайна робяць па аднаму.

Трэцяе,—хлеў павінен рабіцца сьветлым. Вядома, ня толькі жывёла, але і расьліна без сьвятла не абыходзіцца, а дзе расьце ў цемнаце, дык выглядае благім і слабым. Вучоныя людзі і практыкі высьветлілі, што сьвятло памагае пераварваць харчы і паскарае іхператраўліваньне і спажываньне. У цёмным памяшканьні разводзіцца многа бактэрый, якія заражаюць малако і жывёлу. Жывёла ў цемнаце нудзіць, менш есьць і дае менш малака. Для забясьпекі сьвятлом неабходна рабіць вокны ў хлявох з такім рахункам, каб на кожныя 15—16 арш. плошчы падлогі зрабіць 1 арш. плошчы вакна. Каб ня вельмі ахаладжаць памяшканьне, устаўляюць уздоўж сьцяны, а не ўпоперак.

Хто падрыхтуе добры хлеў у сваёй гаспадарцы, той сам убачыць, што затрачаныя сродкі вернуцца з процантамі.

(Горы-Горкі). **М. Сроговіч.**

---

## Памяншэньне спажыўнасьці сена ў мокрыя гады.

Дажджлівае лета гэтага году перашкаджала нармальнай прыборцы сена і, бязумоўна, зрабіла свой уплыў на склад спажыўных матэрый у ім. Гэты выпадак меў месца ў нашай акрузе ў 1923 годзе. Лішак ападкаў яскрава адбіўся тады на жывёле, пры стойлавым утрыманьні, як вынік харчаваньня вышчалашанымі (вымытымі дажджом) кармамі. У тым годзе назіралася памяншэньне прадукцыі малака ў кароў, цяжкасьць расьцёлаў, памяншэньне жывое вагі цялят як зараз пасьля нараджэньня, так і ва ўвесь час гадоўлі, загніваньне хвастоў у кароў і г. д. А пагэтаму ў гэтым годзе гаспадаром неабходна быць асьцярожнымі і ў час прымаць належныя меры для забясьпечаньня жывёлы ад такіх выпадкаў.

Дасьледваньне сена з палёў аднэй с.-г. школы ў Францыі паказала, што пад уплынам дажджоў выявіліся значныя страты спажыўных матэрый, асабліва фосфарнай кіслаты і кальцыя. Страта сухой матэрыі дасягала там 15—80 проц.; гэта датычылася, галоўным чынам, фосфарнай кіслаты і кальцыя. Страта азоту і тлустасьці (жыроў) з сухой матэрыі сена мае нязначнае месца ў параўнаньні з першымі.

Памяншэньне ўдою ў кароў яскрава наглядаецца і ў гэтым годзе, а таму гаспадаром неабходна раіць разам з сенам ужываць макуху і іншыя спажыўныя кармы. Карысна таксама ўжываць прыбаўку ў корм кухеннай солі, што асабліва важна для цельных кароў.

Аграном **Цьвятаеў.**

(г. Гарадок, Віцебскай акр.).

---

## „Крупчак у сьвіней і меры барацьбы з ім“.

### Што гэта за хвароба і чым яна выклікаецца.

У нас на Беларусі вельмі часта ў сьвіней сустракаецца асобная хвароба, так званы „фінноз“ ці „крупчак“. Той, хто гадуе сьвіней, добра ведае, якія страты яна прыносіць гаспадарцы. Страты, якія нясуць усе гаспадары ад крупчаку сьвіней, трудна нават і падлічыць. Вось дзеля гэтага кожны гаспадар і павінен пазнаёміцца, што ўяўляе

сабою крупчак, як ён пашыраецца, і якія способы існуюць для таго, каб захоўваць сьвіней ад яго.

Крупчак, ці фінноз сьвіней выклікаецца доўгім асобным чарвяком, які жыве ў кішках чалавека і завецца „солітэрам“. Калі ў чалавека знаходзіцца ў кішках гэты солітэр, то такі чалавек можа мімаволі пашыраць хваробу і заражаць сьвіней. У той час, калі ён ходзіць да ветру на адкрытых мясцох, дзе ходзяць таксама і сьвіньні, дык разам з чалавечы калам выходзяць часткі і гэтага солітэра, напоўненыя зародкамі. Сьвіньні, як вядома, вельмі ахвотна падбіраюць чалавечы кал і разам з імі глытаюць і часткі солітэра з зародкамі. Такім чынам, сьвіньні пераймаюць ад чалавека зародкі гэтага чарвяка, якія ў мясе сьвіньні маюць выгляд белых круп, адтуль і паходзіць назва гэтай хваробы—крупчак.

### Як разьвіваюцца зародкі солітэра ў целе сьвіньні.

Папаўшы ў кішкі сьвіньні, зародкі солітэра ажываюць, прасьвідроўваюць сьценкі кішак, пападаюць у кроў і разыходзяцца ва ўсе часткі цела сьвіньні. Кожны такі зародак дзе-небудзь у мясе ўмацоўваецца, расьце і праз 3—4 месяцы ён вырастае ў крупку, якая ўжо можа заразіць чалачека солітэрам. Такім чынам, сьвіньні пераніімаюць ад чалавека зародкі рабака-солітэра і перадаюць іх з мясам чалавеку праз сьвініну, заражоную крупчаком.




Салітэр сьвіны (павялічаны): а—галоўка салітэра, б—паасобныя членікі.

### Як распазнаць крупчак у сьвіньні.

Распазнаваньне крупчака ў сьвіньні магчыма толькі тады, калі крупкі зьяўляюцца на языку і пад сьлізьніцаю вока, і калі іх можна абмацаць у форме гузочкаў пад сьлізьніцаю. Спрактыкаваныя сальнікі распазнаюць крупчак так: валяць сьвіньню на зямлю, засоўваюць ў рот палку, выцягваюць язык і глядзяць, ці няма на ніжняй паверхні яго белаватых пухірыкаў. Часамі фінны зьяўляюцца пад абалонкай глазных векаў, тады для выяўленьня іх адцягваюць вака і глядзяць сьлізьніцу.

Аднак, калі крупак на языку ці пад сьлізьніцаю вока ня бывае, то гэта яшчэ ня сьведчыць, што крупчака няма, бо крупкі можа і ня быць на языку ці пад сьлізьніцаю вока, а ў сярэдзіне дзе-небудзь,

ў шынках, або ў шпырках яны могуць знайсьціся. У забітай сьвіньні крупчак відаць адразу. Крупкі выглядаюць, як белаватыя, круглаватыя пухірыкі. Разьмяркоўваюцца яны ў мясе неаднальково, найчасьцей сустракаюцца фінны—у мясе на ніжняй сківіцы, у мясе на паясьніцы і ў сэрцы. Калі крупак (фіннаў) у мясе вельмі многа, то яно прымае бледнаваты колер, становіцца як-бы вадзяністым, а пры гатаваньні выдае няпрыемны пах.

### Меры барацьбы з крупчаком.

Меры барацьбы з крупчаком заключаюцца ў наступным: неабходна ўстанавіць вэтэрынарны догляд за ўсімі месцамі забою сьвіней—разьніцамі, забойнымі пунктамі і інш. Толькі тады, калі кожная забітая сьвіньня будзе агледжана вэтурачом, перад тым як яна пойдзе ў харч, можна быць ўпэўненым, што чалавек ня зьесьць заражанага крупчаком мяса. Вэтурач, агледзеўшы і знашоўшы сьвіное мяса здаровым, кладзе на яго сінюю пячатку.

Далей, неабходна ня пушчаць сьвіней туды, куды людзі ходзяць да ветру. Дзеля гэтага ў нас на вёсках кожны гаспадар павінен зрабіць пры хаце нужнік і зрабіць так, каб нячыстоты не валяліся дзе-папала.

У сучасны момант нам, калі мы думаем заводзіць на Беларусі добрых сьвіней, трэба зьвярнуць на гэта ўвагу і прыняць залежныя ад нас саміх меры да зьнішчэньня крупчака.

Вэтэрынарны ўрач **М. Жарын.**

# ПАШТОВАЯ СКРЫНКА.

**Я. К. Марозу.** Рэдакцыя просіць прабачэньня, што Вашы артыкулы да гэтага часу не надрукаваны. Матар'ялы надзвычайна каштоўныя, але патрабуюць літаратурнай апрацоўкі. Нашы аграномы ўважліва і сумленна перапрацоўваюць іх, і тады надрукуем за Вашым подпісам у наступных нумарах часопісі.

**А. К.** Ваш артыкул „Мая апрацоўка папару" ня друкуецца з прычыны адсутнасьці даных аб ураджайнасьці па чорнаму (васеньняму) папару, раньняму веснаваму, позьняму-сялянскаму. Хутчэй прысылайце даныя.

**Сел. І. А. Коршун.** Ваш досьлед цікавы, а вынікаў няма. Хутчэй надсылайце даныя аб ураджаі кожнае дзялянкі паасобку і з паказаньнем плошчы дзялянак. Незразумелы лічбы „вага выкапанай бульбы",—што гэта, вага аднаго куста ці 12. Пішэце падрабязьней. Хутчэй надсылайце вынікі досьледу пасеву па зяблевай воранцы. Толькі давайце лічбы.

**А. Дымкову.** Артыкул „Вынікі досьледу з жытам" ня зьмешчаны таму, што не яскрава зроблена апісаньне даных. Напрыклад, плошча вучастку вызначана 300 кв. саж., а плошча дзялянкі не паказана у (Кавалёва Сідара). Матар'ял-жа каштоўны. Перапрацуйце, лепш выразна напішэце і прысылайце.

**Сел.-даследчыку А. Казімірчык.** Артыкул „Пажніўнае лушчэньне" атрымалі, скарыстаецца ў бліжэйшых нумарох.

**Аграному К. Хаўстовічу.** Вырашыць аб выданьні асобнай брашурай дасланы Вамі матар'ял „Кармовая морква" пакуль што немагчыма, таму што не замацаваны яшчэ асыгнаваньні на выданьне літаратуры.

**Я. Талуціс.** У далейшым артыкуле аб пабудове агнятрывалых будынкаў патрэбна ілюстраваць малюнкамі. Малюнкі павінны быць зроблены на белай паперы чорнай тушшу (можна і выразныя з кніжкі), надпісы на беларускай мове. Прысылайце і да гэтага артыкулу.

**Дасьледчыку Сляскаму.** Артыкул „Амэрыканскі спосаб гадоўлі бульбы" скарыстаецца.

# ГАРОДНІЦТВА І ПЧАЛЯРСТВА

## Досьлед над капустай.

Сёлетняе лета зьяўлялася асабліва няспрыяючым для завіўкі качаноў капусты. Лішак вільгаці і холаду гналі капусту ў ліст, качаны-ж, у многіх выпадках, зусім не завязваліся. Такое зьявішча назіраецца амаль ва ўсім Гарадоцкім раёне, нават у старых, спрактыкаваных гароднікаў. Прычыну гэтага, акрамя вільгаці і холаду, трэба шукаць у лішцы азотавых угнаеньняў у глебе, тым больш, што, звычайна, нашы гароднікі саджаюць капусту па сьвежым гнаі, уносячы яго вясною, а з мінэральных угнаеньняў ужываюць толькі чылійскую салетру, якая ў гэтае мокрае лета дала толькі адмоўны вынік.

Далей падзялюся тымі досьледамі, якія праведзены намі на Гарадоцкім аграпункце ў гэтым годзе. 27-га мая была пасаджана расада ў градкі на супяшчанай глебе. Глеба ўгнойвалася конскім гноем, колькасьцю каля аднаго пуда на квадратовую сажань. Адна градка была досыць добра пасыпана попелам, а пад расьліны другой градкі, раз у тыдзень, пасьля таго, як расада дала 5 лістоў, прыбаўлялася чылійская салетра па чайнай лыжцы пад кожную расьліну. Вынікі атрымаліся наступныя: капуста, якая было ўгноена чылійскай салетрай, дала вялікія, сьветла-зялёныя лісьці, але зусім не завязвалася ў качаны. Тое-ж самае атрымалася і ў экзэмплярах капусты, якая была пасаджана на звычайным гнаі. На градцы-ж з попелам, ужо ў жніўні, капуста пачала завівацца.

Тады пад расьліны, якія былі пасаджаны на глебе ўгноенай салетрай, а таксама простым гноем, было прыбаўлена па сталовай лыжцы калійнай солі, пасьля чаго капуста пачала завівацца і на гэтых градках. На градках, угноеных аднэй салетрай, а таксама на градках, угноеных простым гноем, дзе не падсыпалася калійнай солі, качаны так і не завязаліая да самой прыборкі. Найбольш цяжкімі качанамі зьяўляліся тыя, якія вырасьлі на глебе з дадаткам калійнай солі—велічыня іх даходзіла да 7-мі вярш. у дыямэтры. Потым па велічыні ідуць качаны з градкі, угноенай попелам.

Відавочна, што капуста патрабуе, каб глеба мела ў дастатковай колькасьці патрэбнага ёй калія, асабліва ў мокрыя гады, бо пры лішках вільгаці, азоту ў добра ўгноенай глебе і так хапае. Гэта асабліва патрэбна памятаць тым, хто хоча мець добрую капусту.

Колькасьць унясеньня мінэральных угнаеньняў пад капусту можа быць наступная: 20 пуд. супэрфасфату, або 24 пуд. тамасаўкі; 18—20 пуд. 30 проц. калійнае солі і 10—15 пуд. салетры на дзесяціну. Прычым салетра павінна быць разьдзелена на тры часткі, з якіх адна высяваецца аднначасова з супэрфасфатам і калійнай сольлю перад тым, як засаджваецца расада ў градкі; другая праз тыдні чатыры пасьля таго, як расада прымецца; трэцяя-ж—праз месяц пасьля другой. Угнаеньне калійнай сольлю таксама неабходна паўтарыць аднначасова з другой часткай салетры, у колькасьці на 1/3 менш, чым для першага разу.

(г. Гарадок, Віцебскай акр.). Аграном **Цьвятаеў.**

# Пчаляры, заводзьце рамовыя вульлі.

Даўней пчолы і ў калодных вульлёх без асаблівага догляду пчаляра зьбіралі вялікія запасы мёду і давалі вялікі прыбытак гаспадару. Але тады яны былі ў зусім іншых умовах: было шмат лясоў і сенажацяй, дзе была многа мёданосных расьлін.

Цяпер зусім іначай: лясоў і сенажацяй стала менш, шмат якія мядовыя расьліны і косяць і травяць раней, чым яны пасьпеюць адкрасаваць. Пры такіх умовах вялікую выгаду ад пчол можна мець толькі тады, калі правільна весьці пчалярства ў рамавых вульлях, у якіх пчаляр можа разумна напраўляць і палягчаць працу пчол. У калодах-жа і ўмелы пчаляр мала чым можа дапамагчы пчолам, а значыць ён не атрымае і вялікай выгады. Цяпер ужо ўсе добра ведаюць, што без рамачнага вульля няма выгаднага пчалярства.

Ня кожны рамовы вулей падыходзіць для выгаднага пчалярства. Рамовы вулей павінен ня толькі спрыяць жыцьцю пчол, у якім-бы яны не пакутвалі ад холаду і вільгаці, ад духаты і цеснаты, але ён павінен быць яшчэ адпаведным і для працы ў ім пчаляра. Для гэтага вулей павінен быць правільна пабудаваны як па велічыні вульля, так і рамак.

З прычыны гэтага, кожны пчаляр, які хоча набыць сабе рамавы вулей, павінен параіцца з інструктарам пчалярства, альбо з вопытным пчаляром-суседам. Яны параяць яму, які вулей набыць ці як яго пабудаваць.

Выбраўшы той ці іншы вулей, трэба абзавесьціся ўзорам гэтага вульля і пры пабудовае стала прытрымліваццa яго разьмераў.

Рамовы вулей перш за ўсё павінен быць прасторны, каб можна было трымаць у ім моцныя сем'і, бо ўвесь ратунак і посьпех толькі ў моцнай сям'і. Пчолы лепш разьвіваюцца і хутчэй уваходзяць у сілу ў цёплых вульлях, таму лепш будаваць вульлі двухсьценныя, якія ўзімку не прамярзаюць, вясною добра затрымліваюць цяплыню, а ўлетку менш награваюцца ад сонца. Двухсьценныя вульлі, калі няма памяшканьня (амшаньніка), могуць зімаваць на дварэ, у той час, калі аднасьценныя вульлі прыходзіцца ставіць у амшаньніку, якія ня кожны пчаляр мае.

Найбольш пашыранымі вульлямі зьяўляюцца 1) вульлі Дадана-Блата, з верхнім магазынам і 2) вульлі Лявіцкага-Лежак з бакавымі магазынамі. Замест вульля Лявіцкага ў сучасны момант некаторыя пчаляры ўводзяць украінскі вулей, у якім рамка аднолькавая па разьмеру з рамкай Дадана-Блата, але толькі паравернута бакавою стараною ўверх. Вулей гэты добры і заслугоўвае належнае ўвагі.

Вулей Дана-Блата добры і выгадны толькі ў руках вопытнага пчаляра. Мала сьвядомыя пчаляры, а таксама пчаляры, якія глядзяць за пчоламі, як кажуць, урыўкамі, часта ў вульлях Дадана-Блата робяць шмат памылак, асабліва з падстаўкаю магазынаў і выбарам мёду. Часта бывае, асабліва ў дрэнныя па мёдазбору гады, што пчолы зносяць увесь мёд у магазын, пчаляр забірае яго, а пчолы застаюцца на зіму з малымі запасамі і паміраюць з голаду.

У вульлёх Лявіцкага і ва ўкраінскіх лежаках гэтага быць ня можа. Там мёд ёсьць ва ўсім вульлі, а значыць і для зімоўкі пчаляр заўсёды пакіне патрэбныя запасы.

Вось чаму мала сьвядомым пчаляром можна сьмела параіць украінскі ляжак. Вулей гэты добры як для расплоду пчол, так і просты для догляду за пчоламі. Без рамовога вульля няма прыбытковага пчалярства.

**Д. М. Сьцефаненка.**




# Як трэба і як ня трэба секчы і валіць дрэвы ў лесе.

Наступіла зіма. Праца ў полі скончана. Затое ў лесе пачынаецца праца і ў гэты час ён становіцца шматлюдным. Высякаюць лесасекі, загатаўляюць дрэвы, сартуюць іх, расьпільваюць дрэвы на бярвеньні, вывозяць бярвеньні, шпалы і адрубкі на фанеру, на запалкі, на паперу дрэвы на паліва, гальлё для плятнёў і г. д.

Зусім мэтазгодна паставіць пытаньне: а ці можна секчы і валяць дрэвы як папала? У той час, калі лясоў было многа, а людзей мала, і калі лес нічога не каштаваў—такое пытаньне ніколі не паўставала. Зараз-жа, калі лесу ўсюды не хапае, нельга секчы яго, як папала. Практыкай і досьледам здабыта шмат палепшаных спосабаў і правілаў вы-




Розныя спосабы высечкі дрэў: № 1—няправільна. № 2—небяспечна. № 3—правільна.

сечкі і валкі дрэў, расьпільваньня іх на бярвеньні і інш., спосабаў перакачваньня і вывозкі іх з лесу. Гэтыя спосабы і правілы карысна і патрэбна ведаць ня толькі спэцыялістым, але і ўсім рабочым, якія працуюць у лесе, г. з. амаль усім сялянам.

Палепшаныя спосабы высечкі лесу карысны па некалькіх прычынах: па-першае, для аднаўленьня лесу, па-другое, для захоўваньня працы, па-трцяе, для падзешаўленьня каштоўнасьці драўніны, па-чацьвёртае, пры гэтых спосабах заўсёды менш траціцца драўніны на трэскі, пні, па-пятае, меншае псаваньне стваловай часткі дрэва і, па-шостае, палепшаныя спосабы высечкі і ўжываньня рацыянальных правілаў апошняй, лепш забясьпечваюць рабочых ад калецтва і іншых няшчасных выпадкаў.

Па ўсіх пералічаных пытаньнях (высечке, валка, расьпільваньне, перакатваньне, укладка, вывазка бярвеньня з лесу) тэхніка зайшла значна ўперад. І трэба спадзявацца, што больш простыя і даступныя для працуючага насельніцтва ў лясох Беларусі способы і правілы працы ў лесе адпаведныя спэцыялістыя апішуць на старонках „Плуга“ і іншых выданьняў.

У гэтым-жа артыкуле я коратка паведамлю толькі аб тым, як правільна патрэбна сьсекчы альбо сьпілаваць дрэвы. Сьсекчы дрэвы можна альбо, 1) сякерай, альбо, 2) пілой, альбо, 3) сякерай і пілою.




Малюнак параўнаньня розных способаў высечкі дрэў.

Першы спосаб (глядзі мал. № 1) самы просты і самы кепскі. Пры ім вельмі многа губляецца стваловай драўніны. Пры тоўстых дрэвах да 7 і нават да 10 процантаў.

Другі спосаб (гл. мал. № 2) дае самую меншую страту драўніны, але затое ён самы цяжкі, а часам і рызыкоўны. Ён патрабуе ад рабочых вялікай спрытнасьці. Вельмі часта дрэва пры дапільваньні зьвёртваецца і падае ня туды, куды яго накіроўваюць, часам расчапляецца ўдоўж. Каб ствол ня сьціскаў пілу, у расьпіленую шчыліну ўбіваюць кліньні („а“ на мал. № 2). На пілавіны пры гэтым способе траціцца ня больш $^1/_2$% стваловай часткі драўніны.

Трэці спосаб, пры высечцы тоўстых дрэў, часьцей за ўсё ўжываецца ў наш час. Пры ім перш-на-перш у дрэве сякерай робяць зарубку з таго боку, куды дрэва павінна ўпасьці, а потым, з процілеглага боку, яго пілуць пілой (гл. мал. № 3).

Трэба адзначыць, што трэці спосаб трэба лічыць для тоўстых дрэў самым лепшым, але і ён патрабуе ўвагі пры працы, бо здараюцца і такія выпадкі, калі пры выкананьні яго ня зусім правільна, псуецца ствол і можа нават быць значная страта драўніны.

На малюнку № 4 і 5 схэматычна намалёваны трэці спосаб пры няправільным яго ўжываньні. На малюнку № 6—правільнае ўжываньне.

Няправільнасьць на мал. № 4 зьяўляецца ў тым, што зарубы сякерай зроблены надта крута (гл. выгляд пярэдні), а рэзка пілою пачата значна высока і зроблена коса (гл. выгляд з боку). У выніку ўсяго атрымоўваецца высокі пень, часьцей за ўсё з рашчэпам, а на самым каштоўным канцы зваленага ствала надта доўгая „барада", у выглядзе нікуды нягоднай, размачаленай, патрэснутай, прывостранай часткі, якая павінна быць адпілавана на ляжачым ужо на зямлі дрэве (гл. рыска з кропак на малюнку), што дае значную страту тоўстай драўніны.

На малюнку № 5 няправільнасьцю зьяўляецца тое, што зрубы сякерай зроблены занадта вялікія па вышыні і, наадварот, вузкія па таўшчыні дрэва (гл. выгляд пярэдні), а рэзка пілой таксама няўдалая, якая пачата нізка і атрымалася косаю (гл. выгляд з боку). Звычайна ў такім выпадку атрымоўваецца пень, на якім тырчыць трэска, а звалены ствол бывае з косым зрэзам ад пілы, рашчапленьнем пасярэдзіне і рэштай зарубу ад сякеры. Усё гэта павінна быць потым адрэзана (да рыскі на ніжнім малюнку № 5).

Правільная высечка на малюнку № 6 зьяўляецца ў наступным: сякерай робіцца два зрубы і пры тым так, што яны ўтвараюць паміж сабою як-бы кут. Па-другое, яны павінны быць простымі і накіраванымі ня коса, ня ўверх, а па таўшчыні дрэва (у паземным напрамку). Па-трэцяе, гэтыя зарубы на вышыні дрэва павінны займаць па магчымасьці меншае месца (гл. выгляд пярэдні). Рух пілы павінен пачынацца дакладна (точна) на ўзроўні сярэдзіны зарубу (можна некалькі бліжэй да верхняй лініі зарубу) і выконвацца па магчымасьці проста і паземна (гл. выгляд з боку). Тады пень і камлёвы адрэз ствала атрымліваюцца роўнымі. Пры такім спосабе ад камля на зваленым дрэве нічога ня прыходзіцца зразаць, і ў гэтым выпадку мы пазбаўляемся непатрэбных страт драўніны, пры тым самай тоўстай, самай каштоўнай.

Прафэсарам Эбэрсвальскай Вышэйшай Лясной школы (у Нямеччыне), Гільрам былі ўтвораны ў навучальным лясьніцтве Бізэнталь досьледы над высечкай сасны, якія паказалі, што ўжываньне апошняга спосабу высечкі (мал. № 6) захоўвае ў сярэднім каля 2 проц. драўніны, гэтыя досьледы давялі, што гэта самы найлепшы спосаб у параўнаньні нават з спосабамі, якія паказаны на малюнках № 4 і № 5, не гаворачы ўжо аб спосабе, які паказаны на 1 малюнку.

Прымаючы пад увагу тое, што лясы дзяржаўнага і мясцовага значэньня ў Беларусі даюць пры высечцы ў год каля 4.000.000 куб. мэтр. драўніны, дык 2 проц. страты, альбо захаваньня складуць 80.000 куб. мэтр., велічыню, як мы бачым, вельмі значную. Калі-ж павесьці разьлік на грошы, дык гадовая высечка па Беларусі ў 1928-29 годзе дасьць нашай рэспубліцы каля 28 мільёнаў руб. І вось калі пазбавіцца ад непатрэбных страт на трэскі, адколкі і г. д., нават толькі ў 2 проц., ужываючы палепшаную высечку дрэў у лесе, дык гэтым самым атрымаем павялічэньне прыбытку ад нашых лясоў больш, чым на паўмільёна (560.000) рублёў.

Вось чаму патрэбна быць уважлівым пры высечцы кожнага дрэва ў лесе.

Праф. **С. П. Мельнік.**

# ПРАЦА НА БАЛОЦЕ.

## Васеньняе залужэньне на балоце.

Засеў шматгадовых траў на асушаным балоце робяць звычайна вясною, у траўні месяцы. Між тым, ва ўмовах практычнай працы мэліарацыйных т-ваў, часта па многіх прычынах у гэты тэрмін зрабіць залужэньне не выпадае, а больш позьнія пасевы траў часта, асабліва ў сухія годы, бываюць не ўраджайны. Акрамя таго, часта бывае, што плошча, якая прызначана пад залужэньне, вельмі засьмечана зельлем, з якім, пры вясеньнім залужэньні, цяжка весьці барацьбу. У такіх выпадках засеў траў з посьпехам можна адкласьці на жнівень месяц, а вясною прызначаную пад залужэньне плошчу можна засеяць мешанкай вікі з аўсом.



Зьлева: Падрыхтоўка балот да пасеву ў 2-м Старобінскім Мэліарацыйным таварыстве. Справа: касьба ў 1-м Старобінскім меліарац. т-ве.

З пасевам вікі з аўсом таксама ня трэба пазьніцца, каб не спазьніцца пасеяць пасьля іх прыборкі мешанку траў. Трэба сеяць віку з аўсом не пазьней канца траўня, каб у пачатку жніўня можна было скасіць і прыбраць іх.

Пасьля прыборкі вікі з аўсом балота трэба зараз-жа заараць, прабаранаваць талерачнай бараною і прыкатаць цяжкім, балотным катком, каб даць магчымасьць лепш узыйсьці сарніне. Перад засевам траў, балота зноў баранүецца талерачнай бараной, з мэтай зьнішчэньня ўзышоўшае сарніны, уносіцца штучнае ўгнаеньне (калійнае і фосфарнае), якое забараноўваецца простымі баронамі, і робіцца засеў траў.

Угнаеньне лепш за ўсё ўносіць у два прыёмы: палавіну нормы (колькасьць якога вызначаецца ў залежнасьці ад таго, якое балота) неабходна ўнесьці перад пасевам, а другую раньняй вясною, перад пачаткам росту траў.

Мешаніну лепш ужываць больш складаную, а ня простую канюшынную, бо бываюць выпадкі, што канюшына, асабліва чырвоная, зімой вымярзае.

Засеў трэба рабіць у тэрмін—ад 1-га да 25 жніўня. Раней гэтага тэрміну сеяць нядобра, з прычыны таго, што да зімы травы разрастуцца і могуць за зіму выпрэць. Засевы-ж, якія зроблены пазьней, ня ўсьпеюць да зімы дастаткова замацавацца і будуць менш устойлівы ў зімоўцы.

Наступнай вясной травы, засеяныя восеньню, не патрабуюць ніякага догляду, апрача ўнясеньня ўгнаеньня, а даюць за лета два поўныя ўкосы ў 400—480 пуд. сена з дзесяціны.

Васеньняе залужэньне мною практыкуецца ўжо трэці год у 1-м і 2-м Старобінскім мэліарацыйным т-ве, Бабруйскай акругі (Случчына), на інтэнсіўна асушаным балоце пераходнага тыпу.

Апісаныя вышэй тэхніка апрацоўкі і тэрмін засеву там з посьпехам ужываюцца. Угнаеньне ўносіцца ў колькасьці: 16 пуд. калійнай солі і 18 пуд. тамасаўкі, альбо супэрфасфату на гэктар.

Мешаніна высявалася, галоўным чынам, так званая фінляндзкая, атрыманая са складу Менскай балотнай станцыі: канюшыны чырвонай



Прыборка сена на штучнай сенажаці ў 1 Старобінскім меліарацыйным т-ве.

10 ф., канюшыны швэдзкай—10 фун., цімафейкі—15 фун., мурожніцы (аўсяніцы сенажатнай)—15 фун. і купкаўкі (яжы зборнай) 15 фун., з дабаўленьнем 5 фун. палявіцы белай і 5 фун. рэйграсу францускага на дзесяціну.

Плошча пад васеньнім засевам была ў 1926 годзе—3,5 гэкт., у 1927 г.—4 гэкт., а ў гэтым годзе засеена 16 гэкт.

З вучастку, засеенага ў 1926 г., у 1927 г. атрыман ураджай у сярэднім 485 пуд. сена ў два ўкосы з дзесяціны, а ў гэтым, 1928 г.—432 п. З вучастку засеенага ў 1927 г., у гэтым годзе атрымана 403 п. з дзесяціны.

Як відаць з прыведзеных лічбаў, ураджай не застаўляе чакаць нічога лепшага.

Неабходна яшчэ адзначыць, што травы былі зусім чыстыя ад сарніны, з якой пасьля засеву ня ўжывалася ніякіх мер барацьбы. Гэта зусім зразумела: частка сарніны была зьнішчана перад пасеўнай апрацоўкай, а частка адналетнікаў, з якіх галоўным чынам і складаецца

сарніна на балоце, якія паявіліся з усходамі траў, згінулі зімой, ня даўшы насеньня.

Цікава зрабіць параўнаньне ўраджайнасьці траў васеньняга засеву з веснавым, які таксама рабіўся на тым-жа самым балотным масыве ў 1 Старобінскім мэліярац. т-ве ў 1927 г. Засеў быў зроблен 15 траўня на плошчы ў 7 гэктараў. Плошча гэта ў 1926 г. была засеена вікай з аўсом па першай воранцы. Травяная мешанка ўжывалася такая-ж самая, як і пры васеньнім залужэньні. Угнаеньне таксама ўносілася ў той-жа норме.

На працягу ўсяго лета на гэтым вучастку прыходзілася ўпарта весьці барацьбу з сарнякамі шляхам пэрыядычнага абкошваньня і полкі. З гэтага вучастку атрыман наступны ўраджай: у год засеву—210 пуд. з дзес. і ў 1928 г.—438 пуд, у два ўкосы з дзесяціны.

Як відаць з прыведзеных лічбаў, травы восеньняга засеву па ўраджайнасьці ня ўступаюць веснавому. Акрамя гэтага васеньні пасеў мае наступныя перавагі:

1. Пазбаўляе ад барацьбы з сарнякамі пасьля засеву.
2. Заўсёды дае магчымасьць у год засеву траў атрымаць поўны ўраджай віка-аўсянай мешанкі, тады як пры вялікай засьмечанасьці плошчы пры веснавым залужэньні ў год засеву амаль што не атрымоўваецца ніякага ўраджаю.
3. Дае магчымасьць рабіць засеў у больш свабодны ў гаспадарцы час.

Адмоўным бокам васеньняга залужэньня зьяўляецца тое, што пры ім, больш чым пры веснавым, магчыма вымярзаньне канюшыны, галоўным чынам чырвонай, і нават некаторых злакаў, як, напрыклад, купкаўкі. Вымярзаньне гэтых відаў, хаця і ў нязначнай меры, наглядалася і ў вышэй прыведзеным выпадку. Вымярзаньня асабліва трэба баяцца там, дзе балота недастаткова асушана.

Можна меркаваць, што і гэты адмоўны бок васеньняга залужэньня можа быць зьнішчаны, калі падсеў тых відаў, якія баяцца вымярзаньня, перанесьці на вясну. Гэта пытаньне неабходна ў бліжэйшы час дасканальна вывучыць як ва ўмовах практычнай працы, так і ў першую чаргу дасьледчымі ўстановамі па культуры балот.

Ня выключана магчымасьць вырашэньня гэтага пытаньня шляхам знахаджэньня марозатрывалых рас. Гэтым пытаньнем у сучасны момант займаецца Менская Дасьледчая Балотная Станцыя.

Культуртэхнік **А. Ванькевіч.**



# С.-Г. ХРОНІКА.

## Як прайшло сьвята „Дзень Ураджаю“.

### I. У Чырвонай-Слабадзе, Бабруйскай акругі.

Раней сяляне Чырвона-Слабодзкага раёну надта асьцярожна падыходзілі да розных новых мерапрыемстваў. Запрапанаваць, каб селянін вёскі пачаў сеяць кармовыя буракі з мэтай праканацца ў іх карыснасьці, альбо палепшыў апрацоўку глебы, было надта цяжка. Тое, што сеяў бацька, якая апрацоўка была раней, так і цягнулася з году ў год. Але з цягам часу, пасьля Кастрычнікавай рэволюцыі, погляд сялян на тое, што ў іх робіцца, што з прэку-веку вялося і лічылася самым лепшым і нязьменным, пачаў парушацца. Аграном стаў жаданым і пачэсным госьцем, і яго парады ня толькі слухаюць, а многія гаспадары і ўжываюць у сваіх гаспадарках.

Тое-ж самае можна заўважыць і ў адносінах да выстаўкі ў сьвята „Дзень Ураджаю“. Калі ў першыя гады правядзеньня выставак наведвальнікі лічыліся сотнямі, дык у гэтым годзе іх было на менш паўтары тысячы чалавек. Трэба адзначыць, што ўражаньне сялян ад агляду выстаўкі, ад тлумачэньня аграномаў і тых хто прывёз свае рэчы, было надта добрае.

Усяго на выстаўку з экспанатамі прыехала 264 чалавекі, з іх з экспанатамі паляводзтва—112, гароду і саду—93, з жывёлай 5 і жанчын з дамашнім вырабам (тканіна)—54.

Удзельнікі выстаўкі былі з бядняцкіх і серадняцкіх гаспадарак. Кожная група сялян падоўгу затрымлівалася каля расплянаваных і засаджаных належнымі расьлінамі севазваротаў, якія надта добра былі выкананы пасёлкамі. У сувязі з праходзячым у раёне землеўпарадкаваньнем, вырашэньне, які ўвесьці севазварот, зьяўляецца важным пытаньнем у сялян, таму каля пляцовак з севазваротамі сыпаліся дзесяткамі запытаньні аграному. Многа сялян зьявілася на выстаўку з кармовымі караньплодамі (буракі, турнэпс, морква) і з снапкамі зерњявых расьлін. Сяляне-дасьледчыкі свае досьледы па прымяненьню мінэральных угнаеньняў, акрамя экспанатаў, паясьнілі апісаньнем, дзе відавочна была паказана карысьць іх ужываньня. Трохі дрэнна, што хмурнае надвор'е загнала добра выкананыя карткі, дыяграмы і інш. па землеўпарадкаваньню і экспанаты шкоднікаў у памяшканьне. Хоць яно было і блізка каля выстаўкі, але наведвальнікам было не спадручна заходзіць. Шкода і таго, што за адсутнасьцю блізка належнае плошчы поля, ня было магчымасьці правесьці дэманстраваньне працы с.-г. прыладаў, напрыклад, плугоў, асыпнікаў, барон (асабліва лугавых).

Разьмеркавана прэмій на 400 р. Прэміі былі з розных с.-г. прыладаў (веялкі, плугі, асыпнікі, косы, сярпы, рыдлёўкі, сахары і г. д.). Прэміі вызначаны ў той-жа дзень і абвешчаны ў мясцовым клюбе. Хоць разьмеркаваньне зацягнулася доўга, але амаль усе ўдзельнікі чакалі часу абвяшчэньня. Памяшканьне на 300 асоб не магло зьмясь-

ціць усіх жадаючых уведаць, хто і што атрымаў на выстаўцы. Тут-жа было праведзена і шанаваньне сялян, якія зьяўляюцца актыўнымі дапаможнікамі ў працы аграномаў.

Шкода, што КСМ, па пачыну якога пачало праводзіцца сьвята „Дзень Ураджаю“, чыім сьвятам лічылася і чыім яно павінна лічыцца і цяпер, амаль ніякага ўдзелу ня прымаў. Адным-жа аграномам і некалькім асобам іншых зямельных працаўнікоў праводзіць сьвята, асабліва выстаўку, было надта цяжка.

Між тым моладзь у вёсцы прапановы прыняць удзел у справе палепшаньня свае гаспадаркі надта прыхільна спатыкае. Аб гэтым сьведчыць тое зьявішча, што калі была праведзена аграномамі гутарка па сельскай гаспадарцы ў суседняй вёсцы Бычаціно і пасьля таго, як быў зроблен заклік адчыніць с.-г. гурток, дык у той-жа час запісалася 25 чалавек. Прычым тыя, што запісаліся, упэўнівалі, што запіс не застанецца толькі на паперы; яны будуць працаваць як па вывучэньню спосабаў палепшаньня гаспадаркі, так і па ўжываньню іх. Тое-ж—самае падкрэсьліваюць і мясцовыя настаўнікі і аграномы. „Калі,—кажуць яны,—наша моладзь за што возьмецца, дык вынік будзе добры“. Імкненьне да новых форм гаспадараньня можна ўбачыць з таго, „што,—як паведамляе тут-жа на сходзе малады гаспадар Я. Казак,—каб зьнішчыць позьні папар, мне прышлося зьвесьці авечак у гаспадарцы, інакш былі нараканьні ад сялян, што я і папар заворваю з восені, і авечак дзяржу, як і ўсе сяляне, і карыстаюся чужым папарам, як пашай. Зьнішчыўшы позьні папар, пачынаючы заворваньне іржышча з-пад ярыны восеньню, я атрымліваю нават з тых кавалкаў поля, дзе гной ня возіцца пад жыта, большы ўраджай, чымся суседзі па гнаі на гэтым-жа полі, якое знаходзіцца поруч, аддзеленае толькі разорай ці мяжою“.

Маецца адзін вялікі недахоп у справе мясцовых організацый у раёне. Гэта слаба пастаўленая работа антырэлігійнай прапаганды. Карыстаючыся аслабленым фронтам, рознаго віду сэктанты (евангелісты і інш.) усё больш і больш уцягваюць сялянства ў свае організацыі. Пры належнай-жа організацыі справы па барацьбе з рэлігійнымі забабонамі (предрассудкамі), сялянства, галоўным чынам, моладзь, шпарка пашло-б у аб‘яднаньні гурткоў бязбожнікаў.

С. Х.

---

### II. У вёсцы Валасовічах.

Раней галоўная маса сялян—беднякі і серадзнякі—мала прымалі ўдзелу ў выстаўках. Ня так было сёлета. У Валасовічах „Дзень Ураджаю“ мы сьвяткавалі ў сваім сельсавеце. Праўда, наша выстаўка была бядней, чым раней раённая ў Лепелі, але людзей на выстаўку і экспанатаў назьбіралася шмат. Багата выступілі Валасовіцкая школа і Тадулінска-Дрымаўскі с.-г. гурток. Школа паказала добрыя, як на сёлетні год, караньплоды (турнэсп і буракі) з школьнага вучастку з вучотам ураджаю (1750 пуд. на дзес.) па парашковых угнаеньнях (супэрфос. 18 пуд., кал. солі 9 пуд.). Гурток вельмі зацікавіў усіх сваімі дасягненьнямі. Ён паказаў вынікі сортаспрабаваньня, вопытаў з угнаеньнямі, з апрацоўкай глебы і карыснасьцю шматпольля. Гурток меў на выстаўцы авёс: 1) па канюшынішчы—залаты дождж—80 пуд., гаралецкі—80 пуд. і мясцовы вэнгэрскі—85 пуд.; 2) па лубінішчы

той-жа вэнгэрскі—85 пуд.; 3) бяз гною па веснавому ворыву—30—40 пуд. і 4) па васеньняму лушчэньню—60 пуд. У гэтым досьледзе сяляне больш усяго зьвярнулі ўвагу на тую справу, што сэлекцыйныя гатункі аўса высьпелі тыдні на 2—3 раней мясцовых простых, толькі вэнгэрскі падпаў пад мароз.

Досьлед з бульбай яшчэ лепш падкрэсьліў карысьць чыстых гатункаў перад мясцовымі. Бульба „Дзіодар" дала ўраджай—2160 пуд., Эпікур—1680 пуд., мясцовая скарасьпелка—1550 пуд., а мясцовая Аршаўка—1440 пуд. (апошняя папала пад мароз у цьвяту, а ўсе першыя добра высьпелі). Вучастак, які быў пад бульбай, гэта старое канюшынішча. Далей былі паказаны буракі Экендорфскія чырвоныя—2000 пуд. і Экендорфскія жоўтыя—1800 пуд. Вучастак палявы—гною 2400 пуд., супэрфасфату—18 п., калійнай солі—9 пуд. Капуста грэчаская пудавая—2400 пуд. на дзес. на гнаі з парашковымі ўгнаеньнямі і г. д. Праўду казаў прадстаўнік ВКЛ тав. Казлоў, „што не сьвятыя гаршкі лепяць. Тадулінскі гурток, які мае пяшчаную і падзолістую глебу, пусьцейшую за нашу ў Валасовічах, можа пахваліцца вынікам сваёй працы толькі дзякуючы таму, што карыстаўся агранамічнымі ведамі з парадамі аграномаў і друку, пасеяў сэлекцыйным насеньнем і працаваў грамадой, а мы зрабілі надта мала, бо агранамічна няпісьменны". У адказ на такую прамову, па прапанове комсамольскай сялянскай моладзі тут-жа запісалася ў яе шмат хлопцаў і дзяўчат. Хоць наша выстаўка была не багатая, але мы здаволены яе вынікамі.

Наш Валасоўскі „Дзень Ураджаю" паказаў, што можа і павінен зрабіць селянін, калі выступіць грамадой.

Наш прыклад парушыў усю акругу: каго заахвоціў да працы, а каго трохі прысароміў. Я лічу, што гэта лепшая агітацыя ў змаганьні за ўраджай. А каб гуртку ня страціць свае пазыцыі, трэба не драмаць.

Дасьледчык **Сьляскі.**

(х. Тадуліна).

---

### III. У м-ку Койданава.

14 кастрычніка 198 лепшых гаспадарак раёну да 11 гадзіны дню заставілі сваімі экспанатамі прасторную залю Нардому. З гэтага часу пачынаецца агляд выстаўкі. Звыш 4000 сялян наведала выстаўку ў гэты дзень (у мястэчку быў кірмаш).

Навукова-Дасьледчы Інстытут імя Леніна разам з Акруговым Камітэтам Асоавіяхіму таксама прымалі ўдзел у выстаўцы. Акрамя расьлін гародніны і паляводзтва, імі на выстаўцы прадэманстрыраваны экспанаты шкоднікаў сельскае гаспадаркі і тут-жа растлумачана сялянству, як з імі змагацца.

Прадстаўнікі саўхозаў, якія прывезьлі экспанаты, расказалі, што яны дабіліся падвышэньня ўраджайнасьці дзякуючы правільнаму севазвароту і прымяненьню штучнага ўгнаемьня: „150 пуд. аўса з дзесяціны, 180—200 пуд. жыта нас не здавальняе",—кажа прадстаўнік саўхозу Навасёлкі тав. Касьпяровіч, а поруч з калхозу „Ліпкі" дадаюць, „што ў нас пакуль што дзесяціна жыта дае 100—105 пуд., а дзесяціна аўса і таго менш—трэба падцягнуцца".

Пасёлкі не адстаюць. Сялянка Крыловіч Ганна, жанчына 50 гадоў, за 20 вёрст прынесла на выстаўку сноп ільну-даўгунцу, якім зацікавіўся амаль кожны наведальнік выстаўкі. Яна тут-жа расказала, як

падвысіла ўраджай на сваім полі дзякуючы парадзе агранома. Тое-ж самае, расказала і сялянка Бабок, з вёскі Зосіна, якая прынесла на выстаўку добрыя расьліны ільну і турнэпсу.

Піанэрскія і камсамольскія арганізацыі ў гэтым годзе даставілі на выстаўку значна лепшыя экспанаты, яны расказалі тут, як каляктыўна дасягнулі лепшага ўраджаю.

Азімая віка ростам вышэй чалавека першы раз была паказана на выстаўцы. Многа сялян зацікавілася ёю і тут-жа даведаліся, як разьвесьці яе ў сваіх гаспадарках.

Аб тым, якое вялікае імкненьне сярод сялянства маецца да разьвядзеньня лепшых сартоў у сваіх гаспадарках, сьведчыць наступнае зьявішча, якое тут мела месца: саўхозам Новасёлкі на выстаўку была дастаўлена пшаніца „Дзіва“. Пасеяная ў гэтым саўхозе толькі першы




Удзельнікі с.-г. выстаўкі ў „Дзень Ураджаю 1928 г. у м. Койданава.

год, яна дала надзвычайна вялікі ўраджай. Каб завесьці ў сябе такой пшаніцы, сяляне падыходзілі да гэтага экспаната, украдкі адрывалі па каласку і засоўвалі за пазуху. Яны гэта рабілі таму, што кіраўнік саўхозу да сканчэньня выстаўкі зрываць каласоў не дазваляў.

Неабходна адзначыць, што ў гэтым годзе ніводнага экспаната ня было дастаўлена на выстаўку кулакамі і заможнымі. Серадняк, бядняк, пасялковец, саўхоз, калгас і г. д.—вось хто ўдзельнічаў у выстаўцы.

Заможнікі і кулакі на выстаўку таксама прышлі, але... з голымі рукамі. Яны прышлі, каб упэўніцца, што бяз іхніх экспанатаў на выстаўцы нічога цікавага ня будзе. Але памыліліся, бо той бядняк, які раней быў бяз хлеба, прывёз на выстаўку добрыя расьліны, з якіх і кулак можа падзівіцца.

Усяго на выстаўку было дастаўлена звыш 500 экспанатаў. Выстаўка паказала, што ўраджай у гэтым годзе ў нашым раёне добры, што ўздым сельскае гаспадаркі ідзе шпарка ўперад.

Выстаўка дала добрыя вынікі, стварыла добрае ўражаньне на сялянства. Лепшыя экспанаты расьлін былі дастаўлены з тых сельсаветаў, у якіх непасрэдна працавалі аграномы.

У падрыхтоўцы да выстаўкі і ў самым яе правядзеньні прымалі ўдзел усе грамадзкія арганізацыі. Нажаль, Нардом не паклапаціўся даць як сьлед кіно. Вельмі цікавая для сялянства карціна—догляд за гародам і садам, прамільгацела з такою шпаркасьцю, што ня можна было нічога разабраць.

**В. Сарока.**

(м. Койданава).

# ПЫТАНЬНІ І АДКАЗЫ.

Пытаньне 120. Ці мае права асоба, з якой прысуджаны алімэнты, прад'явіць іск пра падзел аднэй толькі маемасьці дзялімай гаспадаркі. Робіцца гэта, каб вызваліць гаспадарку ад платы алімэнтаў.

Адказ. Член дзялімага двара мае права прасіць аб падзелу аднэй толькі маемасьці без зямлі. Такі іск разглядаецца раённаю зямельнаю камісіяй. Здавальненьне гэтага іску аднак ня можа пагоршыць становішча дзіцяці, на карысьць якога прысуджаны з паказанага члена алімэнты, бо паводле арт. 70 код. зак. аб шлюбе, сям'і і апецы дзіця мае права на ўтрыманьні з уласных сродкаў бацькі і апроч таго толькі з тае часткі супольнае маемасьці двара, якая належыць адказчыку.

Пытаньне 121. Хто разумеецца пад іншымі ўдзельнікамі зямляўпарадкаваньня, якія паводле арт. 165 зям. код. могуць недапусьціць спыненьні зямляўпарадчай справы? (Лупалаўская райземкамісія).

Адказ. Удзельнікамі або старанамі ў зямляўпарадчым працэсе называюцца як тыя юрыдычныя, альбо фізычныя асобы, па хадайніцтву якіх пачалося зямляўпарадкаваньне, так роўна і сумежныя зямлякарыстальнікі ў пэўнай стадыі працэсу. Калі справа пачалася па хадайніцтву зямельнай грамады, то і спыніць яе можна толькі па прыгавару агульнага сходу грамады, уваходзячыя-ж у яе склад гаспадаркі ня могуць кожная паасобку спыніць зямляўпарадчую справу. Але і па хадайніцтву зямельнае грамады справа спыняецца ў стадыі вызначэньня знадворных граніц толькі па згодзе сумежных зямлякарыстальнікаў, бо яны ў гэтай стадыі працэсу зьяўляцца ўдзельнікамі зямляўпарадкаваньня. Калі-ж знадворныя граніцы будуць вызначаны, спыненьне зямляўпарадчай справы залежыць толькі ад стараны, па хадайніцтву якой пачалося зямляўпарадкаваньне, таму што сумежныя зямлякарыстальнікі ва ўнутрысяленным зямляўпарадкаваньні не зацікаўлены. Значыць, пад іншымі ўдзельнікамі зямляўпарадкаваньня, пра якіх гаворыцца ў арт. 165 зям. код., трэба разумець сумежных зямлякарыстальнікаў, а не паасобныя двары, якія складаюць зямельную грамаду. Калі агульным сходам яе вынесена перад зацьвярджэньнем праэкту пастанова пра спыненьне зямляўпарадкаваньня, яно ня можа прадаўжацца па хадайніцтву паасобных двароў. Апошнія ў гэтым выпадку могуць прасіць толькі пра выдзел з грамады з захаваньнем арт. арт. 118—122 зям. код.

Пытаньне 122. Каму падсудны справы паісках аб утрыманьні дзяцей, старых бацькоў і іншых непрацаздольных членаў двара. (Віцебская акркамісія).

Адказ. На падставе ўвагі да арт. 62 код. зак. аб шлюбе, сям'і і апецы маемасныя правы і абавязкі бацькоў і дзяцей у складзе сялянскага двара ўстанаўляецца зямельным кодэксам. Паводле-ж арт. 79 зям. код. у рэдакцыі пастановы ЦВК і СНК за 14—V 1927 г. і пункту „б“ арт. 199 таго-ж кодэксу ў рэдакцыі пастановы ЦВК і СНК за 17—V—28 г., раённай зьмельнай камісіі падсудны іскі, якія прадяўляюцца да двара аб утрыманьні яго членаў—дзяцей старых бацькоў і іншых непрацаздольных. Таму толькі іскі аб утрыманьні асоб, якія не належаць да складу двара, напр.,—іскі аб алімэнтах, падсудны народнаму суду.

Пытаньне 123. Ці можа сельскі савет адвесьці пашу для вёскі, калі ёсьць для гэтага запасны фонд, але каб прагнаць туды жывёлу, трэба зрабіць прагон праз хутар, гаспадар якога на гэта ня згодзен? (Чэрвенская райземкамісія).

Адказ, Палажэньне прагону праз зямлю працоўнага карыстаньня патрабуе каморніцка-тэхнічных дзеяньняў. Таму адвод для вёскі пашы запаснага фонду і адвод прагону праз хутар павінен праводзіцца ў агульным зямляўпарадчым парадку. Адвод-жа для вёскі пашы без палажэньня прагону можа быць зроблен і сельскім саветам.

**Выданьне Наркамзему.** **Адказны рэдактар: Зьм. ПРЫШЧЭПАЎ.**
**Рэдактар—рэдкалегія.**

